
Юбілейнае «Ператоча» ➔ 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Дамба супраць беларусаў ➔ 5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 33 (3196) Год LXII | Беласток, 13 жніўня 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Лявон малюе святлом

У Супрасль вярнуўся Лявон Тарасэвіч — мастак і чалавек паграніччча. 4 жніўня пачалася выстава ягоных новых прац «Святлом напісана». Так, як адзначыў, у тую Супрасль, куды прынёсся дух Гарадка, у манастыр, што непадалёк яго школьнага гнязда. У Супрасльскую акадэмію, дзе выстаўцы ягоных святлістых прац спадарожнічае ікона Нерукатворнага Спаса, ягонага майстра — Ежы Навасельскага.

Усё нутро асвечаных духам залаў заззяла колерамі натуры — жоўтым, чырвоным, аранжавым, сінім і зялёным. Карціны збудаваныя з трапяткога святла. І ў Лявона Тарасэвіча трапятала душа, што адчувалася ў яго ўсхваляваным голасе: «Мушу жартаваць, бо хваляванне адбірае мне мову... Столькі тут і мае гісторыі, звязанай з Супраслю. З жывой гісторыяй гэтага месца, якое ажыўляў Дух і святло асветы. І тую быццам бы нематэрыяльнасць святла лаўлю ці захопліваю — ці фарбай, як у Барселоне, ці на святлістых камерах. Жывапіс выйшаў ад іконы. Я гадаваны на Гарадоцкай царкве, на жывапісе Дабжанскага, Навасельскага. Я бачу вялікую дрэмлючую энергію таго, што захавалі мы, праваслаўныя, тыя якасці, што ёсць у праваслаўі. Я багата часу прысвяціў вывучэнню праваслаўнай культуры і атаясамліваю сябе выключна з ёю. Адной з галоўных крыніц сваёй творчасці ўвесь час называю фрэскі шаснаццатага стагоддзя мастака Нектарыя з царквы ў Супраслі, а таксама фрэскі ў Любліне і Кракаве, што былі створаны за часоў Ягайлы віленскімі мастакамі ў візантыйскай яшчэ традыцыі.

— Лявон Тарасэвіч прыкладна кожныя дзесяць гадоў прадстаўляе сваю творчасць у беластоцкай артгалерэі «Арсенал», — тлумачыла куратар выставы Магдалена Гадлеўская-Северская. — Кожны раз прыцягвае да сябе ўвагу аўдыторыі — цікаўнай, якую канвенцыю пераломіць на гэты раз, чым нас здзівіць і выб'е з пачуцця, што мы ведаем усё пра жывапіс. Ягоная творчасць пастаянна развіваецца ў пошуках найбольш падыходных сродкаў выказвання, каб апісаць свет. Малюе на сценах галерэй, стварае вялікія пабудовы, якія выбухаюць фарбай з нутра, быццам бы малюнак выліваецца праз шчыліны канструкцыі, і, нарэшце, пакрывае фарбай падлогу Польскага павільёна на Біенале ў Венецыі. Апошняя, манументальная і надзвычай хвалюючая рэалізацыя мела месца ў прасторы гатычнага касцёла Панны Марыі ў Эльблангу з трынаццатага стагоддзя (цяпер тут галерэя EL). Мастак стварыў гіганцкага памеру ладдзю, напоўненую да краёў фарбай. Ладдзя ўбіваецца ў апсіду — а, можа, выхінаецца адтуль і дае надзею на выратаванне? Мастак часта ў дыскусіях падкрэслівае, што мастацтва ў першую чаргу з'яўляецца функцыяй інтэлекту. Сваё прабуджэнне да мастацтва лічыць жывапісам, з якім ён меў кантакт як дзіцё падчас багаслужбаў у царкве Раджджаства Багародзіцы ў Гарадку. Аўтарам тамашніх паліхроміяй з'яўляецца Адам Сталёны-Дабжанскі, якому асіставаў Ежы Навасельскі. Творчасць Тарасэвіча была да гэтай пары надзвычай пачуццёвая, экспрэсіўная, матэрыяльная. У Супрасльскай акадэміі паказаў свае новыя карціны, з зусім іншай структурай чым тая, да якой мы прывыклі. Збудаваная яна са святла, і такім чынам пазбаўленая матэрыяльнай якасці жывапісу, якой з'яўляецца колер з яго тэкстурай і шурпатасцю. Ужо не можам да іх дакрануцца, каб узмоцніць эстэтычнае ўспрыманне. Гэтыя вывы можна адчуць толькі дотыкам вока.




> Межы жывапісу не пазначаныя, і ніколі не будуць, таму што не межы вызначаюць рамкі карціны, але наадварот.
>
> **Лявон Тарасэвіч**





Лявон Тарасэвіч нарадзіўся ў вёсцы Валілы Гарадоцкай гміны, выпускнік Мастацкага ліцэя ў Супраслі і факультэта жывапісу ў Акадэміі прыгожых мастацтваў у Варшаве. У цяперашні час з'яўляецца прафесарам сваёй вучэльні — выкладае там прастору жывапісу на факультэце Мастацтва медыяў і сцэнаграфіі. Аўтар шматлікіх персанальных выстаў, удзельнік некалькіх соцень калектыўных выстаў. Мае сярод сваіх прац многія карціны, дзясяткі манументальных рэалізацый, таксама ў гарадскіх прасторах у Польшчы і Еўропе. Лаўрэат шматлікіх прэстыжных прэмій і ўзнагарод: Фонду Сафіі і Ежы Навасельскіх, Вялікай узнагароды Фонду культуры, Узнагароды імя Яна Цыбіса. У 2014 годзе атрымаў ён Ганаровую жамчужыну польскай гаспадаркі (у катэгорыі культуры), якая прысуджаецца рэдакцыяй «Polish Market». Звязаны з Фондам Віла Сакрата і Галерэяй у Крынках.

— Візуальны свет вакол нас здамінаваны святлістымі камерамі рэклам і штодзённай прысутнасцю экрана тэлевізара ці камп'ютара. Рэальны пейзаж прыроды прападае вельмі хутка разам з дзённым святлом, у якім мы самі шторaз менш прысутныя, — разважаў Лявон Тарасэвіч. — Наша актыўнае жыццё пераносіцца на гадзіны пасля поўдня і начныя, таму

Лявон Тарасэвіч, Магдалена Гадлеўская-Северская і канцлер Супрасльскай акадэміі — а. Яраслаў Юзвік

быццам бы дзень становіцца для нас ноччу, а дзень днём. Аднак святло было і надалей застаецца невысветлянай таямніцай, схіляючай нас да роздумаў і пытання аб іншую тайну — жыцця і Бога. Незалежна ад прасунутай цывілізацыі, стану сучасных ведаў — надалей у нас тоіцца таемная пакора перад загадкавай святлістасцю спатыканай няраз у натуры ці перад зіхатлівымі ноччу панарамамі вялікіх гарадоў. Заўжды было так, што запаленая свяча ці зніч уводзілі нас у одум над мінулым, над сэнсам жыцця і смерці... Святло закрытае ў карцінах адыгрывае такую самую ролю ў нашай свядомасці, якую выконвала калісь пісаная ікона: яно быццам малітва. За дзве тысячы гадоў хрысціянская рэлігія стварыла вобразы культу самыя розныя, што прадстаўленні гэтых самых сцэн ці постацей значна адрозніваюцца адны ад адных. Зямныя шаты, у якія аблачалі святых, былі поўныя знакаў рэгіяналізму або патрыятызму, у выніку цяжка іх ідэнтыфікаваць. Лікі тых самых святых часта непадобныя адны да адных і часта тыя з аднаго горада «канкуруюць» з іконай з іншага горада. Найбольш відавочна гэта на розных паграніччах, дзе вобразы культу зведзены да выканання функцыі племянных, нацыянальных, культурных сімвалаў. Таму стварэнне рэлігійных вобразаў, якія нясуць у сабе духоўнасць супольную для для нас усіх — вельмі важнае, таму што такая была ідэя першапачаткаў іх узнікнення. Асаблівага значэння набірае гэта на нашых тэрыторыях паграніччча, дзе ўсё заўжды зменлівае, а Бог застаецца той самы.

Творчасць Лявона Тарасэвіча зменлівая ў пошуках новых форм выяўлення, якія становяцца часткай дыскусіі аб тым, якім чынам мастацтва апісвае сучасны свет і як яго перакрочвае, спасылаючыся на тое, што трансцэндэнтнае, незразумелае і невыражальнае. Эксперыментуючы з вельмі рознымі мастацкімі медыямі, формамі і інструментамі мастак сягнуў да святла, якое, як гэта ні парадаксальна, нягледзячы на сваю ілюзорную нематэрыяльнасць, з'яўляецца самым асноўным матэрыялам жывапісу. Мастацтва Тарасэвіча было заўжды медыумам «гарачым», экспрэсіўным, звязаным з жэстам і матэрыяй, — тлумачыць Марэк Васілеўскі. — Успрыманне жывапісных светлавых аб'ектаў, прадстаўленых Тарасэвічам, залежыць ад шматлікіх фактараў: пары дня, фізічнага аспекту гледача на працы, яго асобных зрокавых здольнасцей, яго месца паміж веданнем і бачаннем. Чым даўжэй углядаемся і думаем аб працах, тым больш у іх бачым, і пластмасавая паверхня расплываецца перад нашымі вачыма і раскрывае дадатковыя пласты і адлюстраванні. Работы Тарасэвіча з'яўляюцца экранамі, якія выпраменьваюць светлавую прастору, у той жа час з'яўляюцца люстрамі, у якіх адбіваюцца нашы думкі.

Выстава адкрытая штодзень апрача панядзелкаў у гадзінах 10:00-18:00 у Супрасльскай акадэміі, вул. Манастырская 1, да 15 верасня, калі адбудзецца фінсаж і прамоцыя новага выдання пра творчасць Лявона Тарасэвіча.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**





# Загадка
## з адным вядомым

Неяк пасля вясновай вулічнай актыўнасці адзін мой знаёмы пажартаваў, што на месцы ўлады ён ніколі не зачыняў бы тэму так званых дармаедаў. Справа ў тым, што штрафы за вулічныя акцыі былі настолькі вялікімі, што яны хіба добра папоўнілі дзяржаўную скарбонку. Таму задачу ўказа па „дармаедах" можна лічыць часткова выкананай, бо яна адной з мэт мела акурат папаўненне той дзіравай скарбонкі. А якая розніца хто туды пакладзе грошы, дармаеды, ці тыя, хто выйшаў змагацца за іх правы. Грошы ж не пахнуць. Гэта яшчэ з часоў старадаўняга Рыма вядома. Хоць дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што грамадзяне старадаўняга Рыма хоць і ведалі гэтую прымаўку пра грошы, якія не пахнуць, але пра дармаедскі збор, як і пра тое пахне ён чым, ці не, нічога не чулі.

На той момант гэты жарт выклікаў усмешкі ў прысутных. А вось зараз ужо не да смеху. Начальнік краіны, дзе жывуць беларусы, аддаў загад пра новую рэдакцыю свайго славутага ўказа. Маўляў, трэба ўлічыць усе пралікі мінулай версіі, выправіць усе недапрацоўкі і пакласці на стол дакумент, які прымусіць працаваць або плаціць.

Задача, канешне, перад чыноўнікамі пастаўленая архіскладаная. Справа ў тым, што ім няма дзе спісаць гэты закон, бо аналагаў яму ў сучасным свеце ніхто не ведае. Куды ні кінься, ідуць адваротныя працэсы. Недзе праводзяць рэферэндум, каб кожны грамадзянін атрымліваў ад дзяржавы неабходны мінімум. А ў некаторых месцах і без рэферэндумаў прымаецца рашэнне зрабіць нешта падобнае. У кожным разе Еўропа рухаецца ў такім кірунку, калі кожны яе жыхар будзе атрымліваць нейкую суму па факце свайго сталага пражывання ў сваёй краіне і ўсе грамадзяне Еўрасаюза змогуць не клапаціцца пра неабходны для жыцця мінімум. Зрэшты, яны і зараз не асабліва напалоханыя перспектывамі галоднага існавання.

Таму беларускім чыноўнікам прыйдзецца рыцца не ў еўрапейскім заканадаўстве, а ў старадаўніх архівах і старанна вывучаць самыя антычалавечыя аспекты прыгоннага права або асновы камуністычнай калектывізацыі ці чужаземнай акупацыі, каб знайсці хоць нешта патрэбнае. Каб напісаць такі закон з нуля, хоць неяк аргументаваць яго і знайсці прывязку да логікі і канстытуцыі, хоць да якой канстытуцыі ў свеце, гэта запатрабуе вельмі дасканалых і невераґодна руплівых гістарычных пошукаў. Можа нават прыйдзецца вывучаць лад жыцця даканібальных чалавечых супольнасцей. Можа там знойдзецца нешта карыснае. Хоць я вельмі сумняваюся.

Праўда, тое што новая рэдакцыя ўказа ўсё адно будзе прынята, і тое, што яна будзе пакладзена на подпіс у вызначаныя тэрміны, сумнявацца не прыходзіцца. Такі пасыл ужо атрымалі і грамадства ў цэлым, а таксама і апазіцыя, і міжнародная супольнасць. Налёт на незалежны прафсаюз РЭП даходліва гаворыць пра тое, што на гэты раз улада настроена рашуча. І лепш яе больш не нерваваць з падтрымкай і РЭПам, і іншымі апазіцыйнымі арганізацыямі мажлівых вулічных акцый. І што больш, дэкрэт аддавацца на дапрацоўку ці перапрацоўку не будзе. Вось якую версію мы хутка ўбачым, тая і будзе зацверджана. І па ёй і прыйдзецца жыць беларусам.

Загадкай застаецца толькі тое, навошта гэты дэкрэт патрэбны самой уладзе? Лічыць, што дармаедаўскія грошы могуць выратаваць эканоміку краіны, даволі наіўна. Гэтак жа наіўна, як думаць, што ўлада гэтага не ведае. Усё спісваць на ўпартасць таксама недарэчна. Дзеля таго, каб прасоўваць ажно настолькі непапулярную рэч, павінны быць значна больш важкія аргументы. І мажліва такія, пра якія нават сама беларуская ўлада не здагадваецца. Не сакрэт, што досведам першага „дармаедскага" ўказа вельмі зацікавіліся ў расійскай Думе. Мяркую, там вельмі зацікаўлены ў канчатковым апрабаванні і завяршэнні гэтага сацыяльнага эксперыменту, каб прымяніць у сябе. І зноў жа не для эканомікі, а для пачатку іншых пераўтварэнняў, такіх як закрыццё межаў, пазбаўленне пашпартоў, прымусовая калектывізацыя і ўсё астатняе прымусовае... Ну і, канешне, ж вялікая імперыя. Калі савецкая, то абавязкова з усімі тэрыторыямі, якія ўваходзілі ў СССР. Калі Расейская, то і таго больш.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Яшчэ раз
## пра прыгожага чалавека

Калі мы ведаем рымскую культуру, дык праз Вітрувія, Сенеку, Плінія, Гарацыя, Вяргілія. Ці абазначае гэта, што часы, пра якія яны пісалі, датычылі агульнасці людзей, якія жылі тады? І наколькі XXI стагоддзе — у Польшчы адзначанае папулісцкай брутальнасцю ПіС, а ў ЗША прымітыўным трампізмам — ці ранейшае XX стагоддзе, з яго гітлераўскім нацызмам, халакостам, сталінскім і мааісцкім тэрорам і генацыдам, з шаленствам чырвоных кхмераў у Камбоджы, узаемным вырэзваннем тутсі і хуту ў Афрыцы, са шматлікімі лакальнымі войнамі і глабальным тэрарызмам, фундаменталізмамі рознага роду, з'яўляецца прадстаўнічым для нас, сучаснікаў? Ці мы будзем ігнараваць у гэтым пераліку чалавечых дасягненняў развіццё інтэрнэту, спазнанне далёкага Космасу? Ці жывем мы ў нечалавечныя часы, адзначаныя варварствам і вар'яцтвам? Або ў залатым стагоддзі прагрэсіўнага чалавецтва, цывілізацыі размаху і глабальнага свету? Ці нашы нашчадкі будуць ставіцца да 800-метровай вежы ў Дубаі на адным узроўні з пірамідамі Гізы, Тадж-Махал, сабора Агія Сафія, рымскага Пантэона — бачыўшы ў іх прыкметы цывілізацыйнай магутнасці чалавека, ці як праяву яго эгацэнтрычнай тэндэнцыі да гігантаманіі? Ці так, як мы сёння, захлёбваючыся прыгажосцю Тадж-Махал і пірамід, накінуць заслону забыцця на неабсяжныя чалавечыя пакуты, голад, несправядлівасць, дамінуючыя сёння?

Здаецца, што 99,99% насельніцтва ў кожнай эпосе, гэта пластычны, паддаючыся фармаванню матэрыял гісторыі, глiністая маса, якую ўтварае толькі тысячная частка чалавецтва, неабавязкова добра ўсведамляючая, што сваёй дзейнасцю перакрочвае дух свайго часу. Часта за кошт мільёнаў жыццяў. Цікава, што ў найбуйнейшых старажытных творах, якія да сёння чытаем запоем, мы знаходзім мала спагады да пакут рабоў, сельскай і гарадской бедняты — тае сацыяльна парушанай чалавечай гадасці, або, як яе называла інтэлігенцыя таго часу, чэрні. Чэрнь не мела права голасу. Не ведаем мы нічога пра яе чаканні, памкненні, мары. Гэтымі аспектамі жыцця займалася толькі вынесеная над сацыяльнымі класамі арыстакратыя Афін або Рыма або аплачваныя імі чорнаробочыя пяра, для якіх якраз такія пакуты былі іх выключнай уласнасцю, а для астатніх, найчасцей непісьменных, сапхнутых на абочыну існавання, заставалася толькі ананімнасць рабочага быдла. Тым не менш, менавіта ў гэтай грамадзе гэтых арыстакратычных дармаедаў сфармавалася канцэпцыя Kalos Kagathos — прыгожага і добрага чалавека. І да сёння калокагатыя, як традыцыйны тэрмін, звязаны з годнасцю, а таксама з асабістай культурай і маральнай ацэнкай, з'яўляецца выключнай, хоць і недасяжнай мадэллю чалавецтва. Тады, абмежаваная да вузкага кола арыстакратыі, таксама ў сэнсе інтэлектуальнай арыстакратыі, гэтая канцэпцыя была звязана з выхаваннем і адукацыяй, ахопліваючая ў тым ліку паходжанне ад вольнанароджаных бацькоў; разумны сэнс, умеранасць, самакантроль у сваім асабістым жыцці і грамадскасці; цывільную адвагу. Такі чалавек застаецца ўзорам маральнасці і грамадзянскіх паводзін таксама сёння.

Тут варта адзначыць, што ідэя прыгожага чалавека ў грэкаў абмінала істотны элемент: яго стаўленне да боскасці, а хутчэй адносін боскасці да чалавечага жыцця тут і вынікаючых з прынцыпаў паводзін адзначаных боскім умяшаннем. Калі ў хрысціянстве якасць зямнога жыцця, заснаванага не на ўзоры прыгожага чалавека, але добрага хрысціяніна, была ва ўсім пагружаная ў боскім элеменце, хаця б у этыцы Дэкалога, так старажытныя грэкі, сфакусаваныя на часовую прагматыку і на тое, што можна зрабіць у сферы даступнай чалавеку практыкі, пакінулі гэтыя пытанні ў элегантным недаказанні. Як быццам яны хацелі б адзначыць, што ідэя прыгожага чалавека з'яўляецца выклікам для самога чалавека, таму, што тое, аб чым гаворыць да чалавека бог, а ён гаворыць у зразумелай форме толькі для яго, закрываецца ў інтымнай, асабістай сферы, таму вылучанай ад ідэі калокагатос, якая з'яўляецца інтэрпрэтацыяй паводзін усіх высакародных людзей. Ідзе за гэтым таксама фаталістычнае перакананне, што «багі ведаюць, і людзі ледзь здагадваюцца», што абазначае, што чалавечыя здагадкі (інтуітыўнае веданне) структураваныя верагоднасцю праўды. Такім чынам, тое што магчымае і прыгожае кожны чалавек павінен рабіць, нягледзячы на тое, што хоча бог, каб ён рабіў. На жаль, людзі гавораць за людзей. Людзі любяць казаць ад імя ўсіх.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Пашпарт
## дыпламатычнай напругі

Цягам усяго 2018 года будзем адзначаць сотую гадавіну завяршэння Першай сусветнай вайны. Аднак яшчэ больш важнейшым будзе, асабліва для краін цэнтральна-ўсходняй Еўропы, круглы юбілей дзяржаўных утварэнняў на тадышняй палітычнай карце. Абвешчаныя тады дзяржавы вызначаюць і на сённяшні момант еўрапейскую прастору, за выключэннем балканскага катла і падзелу Югаславіі ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя, ну і развалу Савецкага Саюза на пачатку дзевяностых, учыненага трыма саюзнымі рэспублікамі — Расіяй, Беларуссю і Украінай. Менавіта ў 1918 годзе жаданне атрымаць дзяржаўнасць у бальшавіцкай Расіі заявілі народы, якія ў ёй апынуліся ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай у васямнаццатым стагоддзі. Некаторым тады пашанцавала стаць незалежнымі, напрыклад, палякам, літоўцам, латышам, эстонцам. Іншым, так як беларусам і ўкраінцам, прыйшлося жыць падзеленымі Рыжскім мірным дагаворам 1921 года. Але менавіта свой палітычны і гістарычны абавязак у пачатках 1918 года яны выканалі, праклямуючы Беларускую і Украінскую Народныя Рэспублікі. Аднак тады пацярпелі яны паразу ў сутыкненні з большымі і магутнейшымі суседскімі ўтварэннямі, такімі як Польшча і савецкая Расія.

Менавіта да сотай гадавіны атрымання незалежнасці вядзецца падрыхтоўка і ў сённяшняй Польшчы. Цяперашні лагер улады надае аграмаднае значэнне гістарычнай палітыцы, якая часта разыходзіцца з ацэнкамі і меркаваннямі суседніх народаў і дзяржаў. Таму абвастрэнне палітычных і гістарычных дыскусій здаецца непазбежнасцю цягам усяго юбілейнага года. Ужо зараз з'явілася першыя ластаўкі патэнцыйных гістарычна-дыпламатычных скандалаў. А ўсё па прычыне абвешчанай у ліпені Міністэрствам унутраных спраў і адміністрацыі акцыі «Спраектуй з намі польскі пашпарт 2018». Выявы гістарычных асоб і месцаў, якія маюць быць на старонках пашпарта, могуць выбіраць і інтэрнаўты ў віртуальным галасаванні. З ліку трынаццаці прапанаваных графічных выяў, шэсць, якія трапяць у новы пашпарт, будуць менавіта выбраны галасамі інтэрнаўтаў. Галасаванне павінна завяршыцца ў наступным месяцы — дзясятага верасня. У ліку прапаноў — між іншым — Юзэф Пілсудскі, Габрыель Нарутовіч, ксёндз Ігнацы Скарупка, Копец Пілсудскага ў Кракаве і іншыя прапановы.

Аднак дзве з іх выклікалі першыя дыпламатычныя разлады на лініі Варшава — Вільня і Варшава — Кіеў. А ўсё з-за занясення ў прапановы могілак Львоўскіх арлянят і выявы віленскай Вострай Брамы. Выконваючы абавязкі амбасадара Украіны ў Польшчы Мыкола Ярмалюк заявіў медыям, што, «такая сітуацыя выклікае наша здзіўленне і занепакоенасць, таму што ўдарае ў добрыя нашы суадносіны. Такая палітыка не праводзіцца ў дачыненні да суседзяў». Пакуль пра чарговыя дыпламатычныя крокі з боку Кіева не было яшчэ чуваць. Больш рашучымі і на вышэйшым дыпламатычным узроўні была рэакцыя Вільні. У літоўскае Міністэрства замежных спраў быў выкліканы намеснік польскага амбасадара ў Літве, якому былі выказаны наступныя пратэсныя словы: «Такія намеры нязгодныя з прыязнымі суседскім дачыненнямі і літоўскім бокам лічацца непрымальнымі... Вострая Брама і абраз Найсвяцейшай Марыі Панны ў яе нутры распаложаны на тэрыторыі Літвы і іх выявы не павінны знаходзіцца на афіцыйных дакументах другой дзяржавы».

Адным словам, дыпламатычны клопат для ініцыятара акцыі — Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі. Але ёсць яшчэ і іншага роду праблема. Менавіта на віленскую Вострую Браму прагаласавала найбольш інтэрнаўтаў — звыш пяцьдзясят пяць тысяч чалавек. І цяпер не ўлічыць голас народа таксама загвздка для міністэрства, якое з'ўленне гэтай прапановы ў галасаванні тлумачыла тым, што Вострая Брама глыбока звязана з польскай гісторыяй і дзяржаўнасцю. Не адкрыем таямніцы, калі нагадаем, што таксама звязаная з беларускай ці літоўскай спадчынай Вялікага Княства Літоўскага. Вялікім словам стагоддзе незалежнасці гэта юбілей павышанай рызыкі. А нам, беларусам, таксам з годнасцю, урачыста трэба адсвяткаваць сваё свята — сотыя ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Яўген ВАПА**

# Юбілейнае «Ператоча»

**У час XV Белавежскіх мастацкіх інтэграцый «Ператоча-2017», якія 28 і 29 ліпеня арганізаваў у Белавежы Фонд «Царкоўная музыка» з Гайнаўкі ў супрацоўніцтве з Белавежскім асяродкам культуры, цікава запрэзэнтаваліся калектывы з Польшчы, Беларусі і Літвы. Хаця мерапрыемства спасылаецца на традыцыі і культуру дзевяці нацыянальнасцей, прадстаўнікі якіх жылі на тэрыторыі Белавежскай пушчы і побач яе, то ў галоўнага арганізатара «Ператоча» старшыні Фонду «Царкоўная музыка» Міколы Бушко няма сумнення, што асноўная нацыя, якая ад вякоў жыве на пушчанскай тэрыторыі, гэта беларусы, таму падчас юбілейнага мерапрыемства склалі яны палову выканаўцаў. Выступілі яны цікава, так як прадстаўнікі іншых нацый — паляки, татары, літоўцы, ромы, украінцы і яўрэі. Падчас мерапрыемства прэзэнтаваліся таксама расійскія песні. Шматкультурнае мерапрыемства вялося на польскай і беларускай мовах. На гэтых мовах друкуюцца таксама плакаты «Ператоча».**

Публіку «Ператоча» нязменна складаюць мясцовыя жыхары і турысты, якія адпачываюць у Белавежы. Белавежскім мастацкім інтэграцыям спадарожнічае свайго роду «хаджэнне ў народ» — яшчэ да выступаў на сцэне калектывы «Ператоча» ездзяць на брычках па Белавежы і запрашаюць тубыльцаў і турыстаў на шматкультурнае мерапрыемства. Сёлетняе «Ператоча» адкрылі Мікола Бушко і войт Белавежскай гміны Грыгорый Каспровіч. Сабраныя на пачатак выслухалі песню пра Белавежскую пушчу і ігру трубачоў. Мікола Бушко падчас папярэдніх выпускаў тлумачыў публіцы значэнне слова *ператоча* (месца перад дзвярамі ў клуню і токам, дзе традыцыйна ладзіліся гасціны падчас вяселляў, хрысцін і іншых сямейных прыёмаў).

— Наша «Ператоча» адкрытае на прадстаўнікоў нацыянальнасцей, якія жылі ў мінулым у Белавежскай пушчы і яе наваколлі і яно — найстарэйшае мерапрыемства ў нашым рэгіёне, падчас якога прэзентуюцца ў адным месцы культуры розных нацыянальнасцей. Дагэтуль падчас 14 выпускаў Белавежскіх мастацкіх інтэграцый выступілі 163 калектывы, у якіх запрэзэнтаваліся звыш двух тысяч асоб дзевяці нацыянальнасцей. У час сёлетняга юбілейнага «Ператоча» мы рашыліся запрэзэнтаваць перш за ўсё лепшыя калектывы, якія выступалі падчас папярэдніх мерапрыемстваў і паказаць некалькі новых выканаўцаў, — гаварыў **Мікола Бушко**.

— Белавежскія мастацкія інтэграцыі «Ператоча» гэта цікавая культурная прапанова для жыхароў нашай гміны і для турыстаў, якіх сёння многа тут сабралася, — заявіў войт Белавежскай гміны Грыгорый Каспровіч.

У час двух дзён на сцэне «Ператоча» прэзентавалася музыка розных культур. Першымі з аўтэнтычным фальклорам выступілі «Жэмэрва» са Студзіводскага музея і «Танежанкі» з вёскі Тонеж на Гомельшчыне. Апошні калектыў дзейнічае некалькі дзясяткаў гадоў і прэзентуе народныя песні і абрады Тураўскай зямлі. Паводле знатака фальклору Дарафея Фіёніка «Танежанкі» — адзін з самых цікавых выканаўцаў традыцыйных песень Палесся.




Калектыў Дзяржаўнага ўніверсітэта Беларусі ў Мінску «Валачобнікі»



Фальклорны калектыў «Танежанкі» з вёскі Тонеж на Гомельшчыне

— Мы заспявалі нашы даўнія песні, а адзін твор выканалі супольна з жанчынамі з Тонежа, з якімі будзем супольна прымаць удзел у Падляшска-Палескіх жніўных сустрэчах «Олень по бору ходіт», — сказала музычны кіраўнік «Жэмэрвы» **Анна Фіёнік**.

Мерапрыемства вёў Радаслаў Дамброўскі, які знаёміў публіку з выступаючымі калектывамі і іх рэпертуарам.

— У Тонежы і навакольных вёсках яшчэ многа спяваюць. Калектыў «Танежанкі» перш за ўсё спявае нашы даўнія песні без апрацоўкі, так як спявалі нашы мамы і бабулі. Спачатку мы выступалі як хор і спявала ў нас ажно 50 асоб. З часам лік спевакоў меншаў і зараз мы прэзентуемся як калектыў, — сказала кіраўнік калектыву «Танежанкі» **Тамара Прыбаловец**.

Калектыў «Хутар» з Гарадка», якога дзейнасцю кіруюць Янка Карповіч і Генадзь Шэмет, удала запрэзэнтаваў у Белавежы свой радасны рэпертуар. Музыкантаў і спевакоў «Хутара» публіка ўзнагароджвала бурнымі воплескамі.

— Тут асаблівая атмасфера па прычыне разнароднай публікі, сярод якой ёсць многа турыстаў. Незабыўныя ўражанні застануцца таксама ад праезду на брычках па Белавежы, калі мы спявалі нашы песні і запрашалі на «Ператоча», — заявіў **Янка Карповіч**.

Беларускія песні заспяваў калектыў «Ручаёк» з Белавежы, дзейнасцю якога кіруе Марк Зубрыцкі. Песні польскіх горцаў запрэзэнтаваў калектыў «Горская гара» са Шчыркa. Пад гітару спяваў гайнавянін Ян Себяшук, лаўрэат другога месца Міжнароднага фестывалю паэтычнай песні імя Булата Акуджавы ў Гайнаўцы. Спяваў ён на расійскай мове. Займальна запрэзентаваўся беларускі калектыў «Світанак», у якім спяваюць настаўніцы Самаўрадавага садка № 14 з польскай і беларускай мовамі навучання ў Беластоку.

— Мы спяваем у народным стылі, але адначасна так, як іх адчуваем, згодна з нашым натхненнем, — гаварылі настаўніцы з калектыву «Світанак».

Калектыў танца «Чэрэмош» з Венгажва запрэзэнтаваў украінскія песні і танцы. Ромскую культуру паказаў цыганскі калектыў «Рада» з Гродна (Беларусь). Татарскі танцавальна-вакальны калектыў «Бунчук» з Беластока запрэзэнтаваў татарскія танцы і музычныя творы.

— Цяпер публіка цікавіцца татарскімі песнямі і танцамі. Можна нават сказаць, што паявілася мода на іх. У нас з пакалення ў пакаленне перадаваліся рэлігійныя абрады, але апошнім часам паявілася таксама зацікаўленне музычнай традыцыяй. У нашым калектыве выступаюць дзеткі і маладыя асобы, якія цікавяцца сваёй культурай, — сказалі танцоры з калектыву «Бунчук».

Нацыянальная капэла Літвы «Сутарас» гэта прафесійная незалежная група музыкаў, якая ад 28 гадоў выконвае літоўскую інструментальную музыку. Калектыў паспяхова выступаў у краінах Еўропы, у ЗША і Аўстраліі.

— Нам не хапае яшчэ 48 выступаў, каб абвясціць, што мы далі 6000 канцэртаў. Зараз у Літве вялікае зацікаўленне нацыянальнай музыкай розных перыядаў. На нашых канцэртах збіраецца многа моладзі, якой цікавыя нашы музычныя літоўскія карані, — заявіў кіраўнік капэлы «Сутарас» **Антанас Фокас**. Клезмерскі калектыў «Klezmafour» з Любліна выступіў з яўрэйскай музыкай. Аднак самае вялікае ўражанне выклікалі беларускія калектывы «Валачобнікі» і «Купалінка» з Мінска, якія захапілі публіку беларускім рэпертуарам выканаым на вельмі высокім мастацкім узроўні. Фальклорны калектыў Дзяржаўнай філармоніі Беларусі «Купалінка» з Мінска пачаў сваю дзейнасць пяцьдзясят гадоў таму. Сваю назву ўзяў ад беларускай народнай песні «Купалінка». Заснавальнікам калектыву быў музыказнавец, этнограф, народны артыст Генадзь Цітовіч. «Купалінка» зараз прэзентуе перш за ўсё беларускія народныя песні і танцы розных рэгіёнаў Беларусі, а з канцэртамі выступала па-за межамі сваёй краіны — у Расіі, Германіі, Польшчы, Бельгіі, Францыі, Швейцарыі, Даніі, Люксембургу, Канадзе, Індыі і Японіі. Калектыў Дзяржаўнага ўніверсітэта Беларусі ў Мінску «Валачобнікі» захапіў публіку беларускімі народнымі песнямі і танцамі ды ігрой на народных інструментах. «Валачобнікі» заснаваны былі ў 1979 годзе. Таксама выступалі па-за межамі Беларусі — у Галандыі, Германіі, Эстоніі, Расіі, ЗША, Польшчы і Францыі.

— Нашы выступы абапіраюцца на слова, музыку і рух. Нам вельмі падабаецца рэпертуар, які мы выконваем. У асноўным гэта радасныя песні і прыгожыя танцы. Мы сваімі выступамі стараемся зацікавіць нашу моладзь беларускай песняй, мовай і культурай, якія нам дарагія, — заявілі маладыя жанчыны з калектыву «Валачобнікі».

Старшыня Фонду «Царкоўная музыка» Мікола Бушко паінфармаваў, што ў рамках «Ператоча» два канцэрты адбудуцца ў Навасадах і Нурцы-Станцы.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



«Хутар» з Гарадка»



Студыя традыцыйнага фальклору беларусаў Падляшша «Жэмэрва» са Студзіводскага музея

## На рэабілітацыйным аддзяленні (3)

На другі дзень зрабілі мне аналіз крыві і мачы, затым падаліся мы з Алёшай на практыкаванні. У зале сустракаю знаёмых жанчын: Данку з Чаромхі, Геню з Вулькі-Тэрахоўскай, якая замужам у Кляшчэлях, Надзею з Дашоў — члена фальклорнага калектыву „Каліна". З яе мужам Толікам мы працавалі разам у Чаромсе на станцыі. Пяць гадоў як Толік памёр. Удавіца Надзея пахавала і сына. Ёй самой нездаровіцца. Два тыдні як шпіталізуецца на рэабілітацыйным аддзяленні. „Хто ведае, колькі яшчэ прыйдзецца ў бальніцы заставацца", — з сумам гаворыць субяседніца. У зале практыкаванняў знаёмлюся з Янкам Ваўранюком з Тынявіч-Вялікіх. Калі згадваю пра свайго прыяцеля, тэлежурналіста Мікалая, дык выяўляецца, што яны блізкія суродзічы. Перад абедам канчаюцца практыкаванні. Алёша пад'язджае з вазком, вяртаемся ў палату. Абед у шпіталі пастаўляюць тэрмінова ў назначаны час — пятнаццаць хвілін пасля дванаццатай гадзіны, вячэру — пятнаццаць хвілін пасля сямнаццатай. На маю думку, нормы шпітальнага харчавання не найгоршыя, хоць некаторым пацыентам здаюцца быць мізэрнымі. Таму ім „дапамагае" шпітальны халадзільнік на калідоры. У ім пацыенты захоўваюць свае харчовыя прадукты, якія спажываюць у „дадатак" да шпітальнага харчавання. Да такіх належыць і мой калега Алёша Белеўскі. Паколькі ён жыве непадалёк ад шпіталя, дык жонка яму што і раз падкіне свежую каўбаску з печывам. А ён і мяне бутэрбродамі падкормліваў. Я не заставаўся ў даўгу. Сваю „дабаўку" дзяліў папалам. На адвячорку наведала мяне сяброўка Геня з Кляшчэляў. Вяртаемся да школьных гадоў. Вось як іх успамінае сяброўка:

— У школу я паступіла ў 1946 годзе. У Вульцы-Тэрахоўскай была чатырохкласная школа. Змяшчалася у памяшканні Насцёнкі і Кас'яна Бараноў. Пасля вайны вучыліся „перарослыя" па ўзросце вучні 1934-1938 гадоў нараджэння. Выдатнікам быў шанц за адзін вучэбны год залічыць два класы. У нашай школе вучыліся дзеці з Апакі-Вялікай, Гайкоў і Вулькі-Тэрахоўскай. У пяты клас хадзілі мы ў Чаромху-Станцыю. Вёска наша славілася ў наваколлі бондарствам. Наш татуль быў выдатным майстрам у гэтым рамястве. Кожны панядзелак прадаваў свае вырабы на рынку ў Кляшчэлях. Найхутчэй разыходзіліся бочачкі, дзежы ды шоплікі. Найпрыдатнейшай драўнінай былі сасна і дубіна. Моладзь збіралася на забавы ў Веркі Баран, у яе была найбольшая кватэра. Збудавалі таксама пляцоўку для танцаў пасярэдзіне вёскі. Кожную суботу збіралася моладзь на вячоркі. Нашым музыкантам быў Мікалай Кандрацюк з Гайкоў, інакш кажучы — Коля Барысаў. У 1955-1956 гадах у сяле арганізавалі сельскагаспадарчы кааператыў. Бацька лічыўся яго членам. Старшынёю выбралі Анелю Назарук. У яе кватэры арганізавалі радыёвузел. На сходы склікалі па радыёвузле. Пасля некалькіх гадоў старшынства Анеля перадала свае абавязкі сястрыцы Аляксандры. У 1959 годзе арганізавалі гурток БГКТ і вакальную групу. Спявалі Валя Петышук і Марыся Якубіч з Хлявішчаў. Паспяхова выступалі яны ў сяле і наваколлі, затым наведалі Нарву. Там воленскія пявунні падбадзёрылі публіку савецкімі частушкамі. Вяселле ў Вульцы гулялі традыцыйна тры дні — у суботу рабілі каравай, у нядзелю пасля шлюбу адбывалася вясельнае застолле ў маладой, а ў панядзелак ехалі з прыданнем да маладога. У першы чацвер арганізавалі „перажвы" ў маладой, а ў суботу ў маладога. Сельскагаспадарчы кааператыў „разваліўся" пры канцы 1959 года. Ад помніка мінулага засталіся адно ўспаміны і сельскагаспадарчыя забудовы, якімі карыстаецца прыватны прадпрымальнік. Даўней Вулька-Тэрахоўская налічвала пад семдзесят дамоў. 6 жніўня 1984 года вяскоўцы паклалі краевугольны камень пад царкву. Наступнага дня за нябесную заступніцу прынялі св. Ганну. З таго часу ў сяле 7 жніўня святкуюць дзень св. Ганны. Салэцтва Вулька-Тэрахоўская належыць да Кузаўскага прыхода. Кожную другую нядзелю ў царкоўцы на могілкаху а. Рыгор Навумовіч узначальвае багаслужбу, — закончыла аповед сяброўка Яўгенія Садлінская з Кляшчэляў.

Уладзімір СІДАРУК

# Х Актава культур

## — прастора для міжкультурнага дыялогу

Ці Падляшша можа натхняць людзей розных у культурным плане ? Што дае нам узаемапранікненне народнай музыкі з розных частак свету? Напэўна гэта стварае новую якасць, якая кранае, вучыць і робіць прываблівым — чаго даказала Х Актава культур, якая прайшла 26-30 ліпеня ў Беластоку. На працягу пяці дзён выступіла 28 калектываў з 11 краін свету. Менавіта тут, на Падляшшы, у прыгранічным рэгіёне, можна было заўважыць як культурныя карані розных народаў пераплятаюцца і аб'ядноўваюць.



Падляшская актава культур гэта мерапрыемства без якога ўжо цяжка ўявіць сабе лета на Падляшшы. Галоўныя канцэрты адбываюцца ў цэнтры Беластока. Тут, на Рынку Касцюшкі, цягам пяці дзён гучала музыка выканаўцаў з амаль усіх кантынентаў. Этнічная музыка, каляровыя касцюмы, незвычайныя інструменты і мешаніна моў прыцягнулі тысячы гледачоў.



Ідэяй фестывалю з'яўляецца прэзентацыя культур і спадчыны артыстычных калектываў з Польшчы і замежжа, якія ствараюць розныя жанры музыкі і мастацтва. Ад пачатку гэтае фальклярыстычнае свята ладзіў Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку. Першапачаткова фестываль, які адбываецца з 2008 года, меў прэзентаваць культуру і музыку васьмі меншасцей, якія пражываюць на Падляшшы: беларусаў, літоўцаў, ромаў, расіян, татараў, украінцаў і яўрэяў. Аднак з году ў год сваю прысутнасць на фестывалі пачалі прапанаваць калектывы з іншых краін.

Сёлета ў праграме апынуліся канцэрты гуртоў вядомых ужо публіцы. Частка была абрана на аснове дасланых заявак, якіх у гэтым годзе было больш за 70. І так выступіла 28 калектываў з 11 краін свету, у тым ліку з Беларусі, Украіны, Літвы, Грузіі, Грэцыі і Ізраіля. На галоўнай сцэне ў Беластоку можна было пачуць усіх запрошаных выканаўцаў, а дадатковыя канцэрты прайшлі таксама ў 24 мясцовасцях ваяводства.

— Формула фестывалю вельмі шырокая. Па-за Аўстраліяй і Антарктыдай усе кантыненты ўжо ў нас выступалі, — сказаў мастацкі кіраўнік фестывалю Анджэй Дырдал. — За дзесяць гадоў трыццаць тры краіны прэзентавалі сваю культуру на нашым фестывалі.

Х Міжнародны фестываль музыкі, мастацтва і фальклору ў цэнтры Беластока традыцыйна ўжо адкрыў радасны і каляровы парад калектываў, якія прыехалі на Падляшша не толькі з Еўропы. Юбілейны выпуск абавязвае, таму сёлета запрошаны былі самыя лепшыя калектывы, якія выступалі на фестывалі ў мінулых гадах. У іх ліку быў беларускі гарадзенскі ансамбль «Белыя розы», які быў высока ацэньваны на папярэдніх выступах у час Актавы культур. «Белыя розы» былі адным з атракцыйнаў інаўгурацыйнага канцэрта, а таксама ўзбагацілі парад, прэзентуючы беларускія народныя строі, характэрныя і Сакольскаму рэгіёну.



Спалучэнне розных культур у духу ўзаемнай павагі прыносіць разуменне, талерантнасць і адчуванне адзінства. І не толькі сярод запрошаных гасцей, але, перш за ўсё, сярод публікі, якую аб'ядноўвае Падляшская актава культур. Перадольванне бар'ер, стэрэатыпаў або адмоўных думак гэта асноўная задача фестывалю. Арганізатары стараюцца ствараць прастору для міжкультурнага дыялогу, так важнага, асабліва ў сённяшні час.

Тэкст і фота Уршуля ШУБЗДА

Многа у жыцці губляеш, калі "Ніву" не чытаеш!

## З „Нівай" і чытачамі летам

Летам жыхары вёсак Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета маюць менш свабоднага часу, каб чытаць кніжкі і газеты. Але ўсё ж кожны нумар „Нівы" і зараз трыццаць ад 23 ліпеня гэтага года чыталі Вера Клімюк і Галіна Бірыцкая з Плянты. Марыя і Канстанцін Целушэцкія ды Аляксандра і Юрка Ляшчынскія з Новага Ляўкова.

Родны часопіс гарталі Галена Бартошук са Старога Ляўкова, Павел Красноўскі, які прыехаў на лета з Варшавы ў сваю родную вёску Новае Ляўкова, Лідзія і Барыс Казлоўскія, Ніна і Міхал Целушэцкія, Вольга і Віталь Скепка, Зіна Садоўская, Паўліна і Юры Сухадола, Лідзія Казлоўская, Раіса і Міхал Баканач ды Марыя Крышань з Новага Ляўкова, Надзея Кот ды Ніна і Юрка Ляткоўскія з Плянты. Усе яны сцвярджаюць, што калі б не „Ніва", яны ўжо не патрапілі б чытаць па-беларуску. Яны найбольш зацікаўлены допісамі з нашых беларускіх вёсак. Хочуць чытаць пра цікавых ды таленавітых людзей, пра іх жыццёвыя поспехі і дасягненні. Шматлікія жыхары Нараўчыны пачыналі чытаць часопіс... з найноўшых дэмаграфічных вестак з усходніх гмін Беласточчыны. Яны так хутка абязлюджваюцца. Я неўзабаве напішу пра дэмаграфію Заблудаўскай гміны. Ужо ездзіў у Заблудаў і атрымаў інфармацыю.

25 ліпеня г.г. тры экземпляры „Нівы" атрымалі ад мяне Юрка Бельскі з Ахрымоў, Тамара і Віталь Сухадолы ды Мікалай Сухадола з Падляўкова. І так, у ліпені наш родны часопіс чыталі жыхары пяці салэцтваў Нараўчанскай гміны: Ахрымы, Новае Ляўкова, Старое Ляўкова, Падляўкова і Плянта. У іх я быў з „Нівай" і гутарыў з чытачамі.

22 ліпеня г.г. я завёз „Ніву" Юрку Ляшчынскаму і ён расказаў мне, як быў вучнем стараляўкоўскай пачатковай школы і як пісаў пісьмы ў „Зорку". Браў з яе адрасы вучняў іншых школ і вёў з імі доўгую перапіску і як было гэта цікава. У кожную пятніцу лістаноша прыносіў у школу многа экземпляраў „Нівы" і шмат пісем ад вучняў з БССР і СССР. Колькі ж было радасці!

У ліпені гэтага года зусім адмовілася ад чытання „Нівы" адна жыхарка новаляўкоўскай калёніі (да гэтай пары праз тры гады ахвотна чытала, між іншым, артыкулы і допісы з Нараўчанскай гміны ды гараскоп). Яна ў сваім доме мае ніўскі каляндар на 2017 год. І вось не ўзяла ад мяне нашай беларускай газеты. Я, як і раней, не патрабаваў грошай ад вышэйзгаданай аднавяскоўкі. Мне гэта дзіўна і прыкра пра такое пісаць. Такіх выпадкаў не меў я да гэтых пор. Але вось здарылася. Думаю, што гэта ўсё ж толькі часовы капрыз, бо толькі лянівы не чытае „Нівы". Вышэйзгаданая жыхарка Новага Ляўкова такой не з'ўляецца.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# Пярэдняя дамба супраць беларусаў




працяг з 32 н-ра «Нівы»

**ЧАРТАПАЛОХАМ ПА ЧЫНУШАХ**

Паматаю, як у верасні 1979 г. падвозіў мяне на сваёй машыне ў Беласток інжынер Аляксандр Мядзведзь, які ехаў ад сваёй мамы Настассі ў Семенякоўшчыне. Ехаў спецыяльна праз Луку. «Хочуць гэту старадаўнюю беларускую вёску выселіць пад вадасховішча. Кажуць, што на гэты бераг выліецца вада. Па маіх меркаваннях Луку не трэба ліквідаваць, я вылічыў, што гэта немагчыма. Буду змагацца за гэта ў Ваяводскай управе меліярацыі і водных установак, мусяць лічыцца з маім меркаваннем. Вось, такі партыйны замысел, ваду дацягнуць да Беластока!» — хваляваўся. Праз тыдзень ён загінуў у аўтакатастрофе, едучы з таго самага боку ў Беласток, з чыноўніцай з ВУМ:ВУ. І ніхто не заступіўся за вёску, якая неўзабаве апусцела на беразе. Хаця былі такія людзі, якія ўчапіліся за родны парог, а чынушаў, што хацелі іх выгнаць з роднай хаты, гналі венікамі, як **Валянціна Камажэўская**.

Дзевяць гектараў мела Валянціна ў Луцэ. Рашылася пайсці замуж, дзясятае дзіця ў лучанскай сям'і, тыдзень пасля мамінай смерці. Пайшла пад Нарву, не ўжыліся. Валянціна забрала сваіх дзяўчатак і вярнулася ў Луку. Паставіла дом, гаспадарчыя будынкі. Рабіла як конь на дзевяці гектарах. Расказвала мне: «Але прыйшлі ЯНЫ, і забралі ўсё тое, чым жылі 142 лучанскія гаспадары!». Не хапіла Валі Камажэўскай грошай з тае «кампенсацыі» за пакінутую гаспадарку, каб купіць зямлю, далей гаспадарыць. Можа, калі б не была яна адна... «Лучанскія людзі разбегліся па свеце. Хто пайшоў на «лепшае жыццё», у блёк. На старыя гады каб у цяпле пажыць, рукі склаўшы?» Не, не такія гэта людзі, каб ад зямлі адвыкнуць. Некаторыя засталіся бліжэй свайго. Хто меў больш кемлівасці і грошай, паставіў хату ў Новай Луцэ. Былі такія, што за пясчаныя лучанскія палоскі дасталі ладны кавалак зямлі на другім баку дарогі, ужо ў Міхалоўскай гміне. А Валянціне Камажэўскай нават і палічыць не змаглі яе зямелькі — ейныя грошы выплацілі ёй і іншай кабеце, з якою не мела нічога супольнага, з другога канца вёскі. Трэба было **бязглуздасць чыноўнікаў** праставаць варшаўскімі судамі. Пакуль адсудзіліся, дык і грошы вартасць страцілі...

Свой лучанскі дом Валянціна Камажэўская паставіла на дубовых фундаментах. Мела кватэру ў бандарскім блёку, ды начавала не там. Тут была яе сцежка, буялі яе расліны, якія сама пасадзіла. Пакінутыя дамы належалі цяпер чыноўнікам па справах вады. «Яны маглі іх прадаць, разабраць ці нават спаліць». Яўген Смольскі дзядзькаў старэнькі дом выкупіў, перанёс у Новую Луку, а на ім пабудаваў новае жытло. А хаты Камажэўскай ёй самой прадаць не хацелі. І з тых дубовымі падрубамі прадалі яго чужым. Але пакуль Валя страціла дом, прыйшлі ноччу да яе ў Луку нейкія людзі — напалохалі, усё паразбівалі, парвалі нават здымкі. «А днём пад'ехала пад мой дом машына, з яе вылез чыноўнік у нагавіцах пад кант і да мяне: «Dokąd tu będziesz siedzieć, ty gnojku!». Бабуля якраз падмятала падворак венікам з чартапалоху, дык тым дзеркачом пагнала з панадворка чыноўніцкую хамулу. Але напалохалася — пайшла жыць у блёк, — баялася, што яе тут у пустой вёсцы проста спляжаць. А потым перастала хадзіць у той бок — цяжка было, і балюча.

Балюча ўсім, каму аднялі родную зямлю і разагналі па свеце. Гэта: Харкевіч Павел сын Антона, Харкевіч Арсень сын Антона, Харкевіч Зофія д. Аляксандра, Харкевіч Уладзіслаў с. Ігната, Грэсюк Феафіла, Красніцкая Анна д. Давіда, Кардаш Фёдар, Каральчук Аляксандр с. Амяльяна, Лобач Уладзіслаў с. Венядзікта, Лобач Сіман с. Венядзікта, Лукша Васіль с. Трафіма, Новік Марыя д. Трафіма, Новік Марыя д. Максіма, Новік Аляксандр с. Сцяпана, Новік Канстанцін с. Міхала, Новік Васіль с. Сцяпана, Пакутнік Ян с. Дзямяна, Шульскія Юлія і Міхал, Садоўскі Уладзіслаў с. Уладзіслава, Стоцкая Марыя д. Яна, Стоцкі Аляксандр с. Якуба, Стоцкі Міхал с. Якуба, Салавей Васіль с. Васіля, Смольскі Якуб, Васільчык Мікалай с. Цімафея, Васільчык Юльян с. Мікаля, Жукоўскі Сяргей с. Юльяна, Жукоўская Вольга д. Ануфрыя, Жукоўскі Герасім с. Мікалая, Жукоўскія Марыя і Вера, Анцутка Рыгор с. Сцяпана, Анцутка Уладзімір с. Сцяпана, Анцутка Андрэй с. Сцяпана, Бірыцкі Канстанцін с. Юзафа, Бойчук Аляксандр і Ян, Бойчук Антон с. Юзафа, Бірыцкі Мікалай с. Якуба, Бандарук Лук'ян с. Андрэя, Бура Мікалай с. Ануфрыя, Бірыцкая Марыя д. Яна, Буйко Міхал с. Мікалая, Харкевіч Ян с. Сімана, Жукоўскі Піліп с. Юзафа, Харкевіч Цімафей с. Яна, Харкевіч Пелагея д. Яна, Харкевіч Васіль с. Рыгора, Харкевіч Сяргей с. Рыгора, Харкевіч Фёдар с. Антона, Харкевіч Антон с. Канстанціна, Харкевіч Мікалай с. Юльяна, Харкевіч Аляксандр с. Андрэя, Харкевіч Аляксандр с. Антона, Дабжынскі Уладзіслаў с. Пятра, Грыголец Антон с. Антона, Грыц Антон с. Канстанціна, Каральчук Сяргей с. Сцяпана, Каральчук Сцяпан, Кардаш Павел сын Карнілы, Камажэўская Валянціна д. Адама, Лаўнічук Аляксандра д. Максіма, Лукша Трафім с. Сяргея, Лукша Сяргей с. Трафіма, Лобач Лявон і Сяргей, Лаўнічук Аляксандр с. Мікіты, Лаўнічук Ян с. Уладзіслава, Лаўнічук Мікалай с. Канстанціна, Місевіч Міхал с. Канстанціна, Новік Наталля д. Кас'яна, Новік Юрый і Антаніна, Новік Агата д. Васіля, Новік Юльян с. Мірона, Новік Валянціна д. Міхала, Новік Цімафей с. Мікалая, Новік Міхал с. Рыгора, Новік Юльян с. Рыгора, Новік Уладзіслаў с. Яна, Новік Канстанцін с. Максіма, Раманюк Якуб с. Андрэя, Стоцкі Мікалай с. Антона, Садоўскі Уладзіслаў с. Аляксея, Садоўскі Сцяпан, Станкевіч Вераніка, Станкевіч Станіслаў с. Юзафа, Стоцкі Мікалай с. Максіма, Салавей Васіль с. Юзафа, Смольскі Пётр с. Паўла, Скепка Ян с. Васіля, Сімаковіч Аляксандр с. Аляксея, Саўко Рыгор с. Ігната, Самоцік Дзмітрый с. Паўла, Смольская Настасся д. Яна, Стоцкі Васіль с. Венядзікта, Стоцкі Ян с. Яна, Стоцкі Сяргей с. Аляксандра, Шульскі Юльян с. Аляксандра, Шульскі Ян с. Аляксандра, Стоцкая Параскева д. Антона, Стоцкі Уладзімір с. Васіля, Стоцкі Мікалай с. Цімафея, Стоцкі Максім с. Канстанціна, Трахімчук Антон с. Кандрата, Васільчык Лявон с. Герасіма, Васільчык Юльян с. Рыгора, Васільчык Тамаш с. Андрэя, Віткоўская Настасся д. Сімана, Жукоўскі Дзмітрый с. Яна, Жукоўскі Васіль с. Рыгора, Жукоўскі Піліп с. Піліпа, Жукоўскі Піліп с. Сцяпана, Жукоўскі Уладзімір с. Мікаля, Стоцкі Аляксандр с. Андрэя, Васільчык Цімафей с. Дзям'яна, Засім Мікалай с. Піліпа, Рыгаровіч Ян с. Мікалая, Рыгаровіч Мікалай с. Мікаля, Лешчук Мікалай с. Сцяпана. З усёй лучанскай зямлі 21,96 гектараў належала яшчэ Дзяржаўнаму фонду зямлі. Іх зямлю экспрапрыявалі пад пабудову Семяноўскага вадасховішча і **нязробленага** 17-цікіламетровага канала Нарва — Супрасль. На прапашчы праект супольнай айчыны ПНР, краіны якая мела быць цалкам аднанацыянальнай і шчаслівай, поўнай малака, мёду і чыстай вады.

На гэтую «публічную мэту» па плане AS.42/II/III/1/75 экспрапрыявалася зямля незалежна ад рашэння гаспадароў, ці хочуць яны пакідаць сваю зямлю і за колькі грошай кампенсацыі гэта зробяць. У святле абавязваючых сёння праўных рэгуляцый «публічная мэта» гэта мэта якая служыць агульнасці людзей, **даступная для ўсіх.** У Канстытуцыі РП «экспрапрыяцыя» дапускаецца толькі тады, калі робіцца яна на публічныя мэты і пры **слушнай кампенсацыі**. Усе экспрапрыяваныя нерухомасці перадаваліся Ваяводскай управе меліярацыі і водных установак (ВУМіВУ), і яна як кіруючая меліярацыйнай пабудовай мела пра іх дбаць і пільнаваць усіх юрыдычных спраў звязаных з імі. З дакументаў, якія сабраныя, вынікае, што вялікая частка экспрапрыяваных нерухомасцей на пачатку дзевяностых гадоў была палічана **лішняй** для мэты звязанай з экспрапрыяцыяй і перададзены яны былі **Нараўчанскай гміне**.

Шмат гадоў нічога з гэтымі нерухомасцямі не адбывалася, аднак ад нейкага часу вядуцца дзеянні наконт змены плана прасторавага добраўпарадкавання і прызначэння гэтых грунтоў. Фіналізацыяй гэтых дзеянняў з'яўляецца продаж гэтых грунтоў «асобам трэцім». Адна з нерухомасцей — памечаная нумарам 926, абшарам 0,18 га, распалажаная ў Луцэ ў Нараўчанскай гміне, прадаецца, а другую з нумарам 939, абшарам 0,17 га, ужо прадалі ў 2007 г. (такіх участкаў тут вельмі шмат).

Як вынікае са зместу арт. 136, уст. 1 і 2 закона ад 21 жніўня 1997 г. аб гаспадарцы нерухомасцямі (Dz. U. 2004, nr 261, poz. 2603 з пазнейшымі зменамі), *экспрапрыяваная нерухомасць не можа быць выкарыстаная на іншыя мэты, чым названыя ў рашэнні аб экспрапрыяцыі, з прыняццем пад увагу арт. 137, хіба што папярэдні ўласнік або яго спадкаемца не пададуць заяву на вяртанне ім гэтай нерухомасці ды ў выпадку намеру прызначыць экспрапрыяваную нерухомасць або яе частку на іншую мэту чым намечаная ў рашэнні аб экспрапрыяцыі, адпаведны орган паведамляе папярэдняга ўласніка або яго спадкаемцу аб гэтым намеры, адначасова інфармуючы аб магчымасці вяртання экспрапрыяванай нерухомасці.*

І тут сутнасць праблемы, якая турбуе асоб, якія схочуць вярнуць сабе забраную ім родную зямлю. Войт Нараўчанскай гміны, які з'яўляецца органам, які можа выканаць гэтае дзеянне, не выконвае яго. Незалежна ад заклікаў, каб не парушаў надалей ён закону, ды зваротаў у вышэйшыя інстанцыі наконт яго бяздзейнасці ў гэтым плане. Апрача таго, хаця войт ведае пра тое, што ідуць справы ў Павятовым старостве ў Гайнаўцы датычныя вяртання нерухомасцей аддадзеных дзяржаве праз экспрапрыяцыю, прыспешвае дзеянні **продажу нерухомасцей** якія дасталіся гміне як «лішнія» ад незрэалізаванай «публічнай мэты». Нядаўна прадалі чарговыя паселішчныя ўчасткі №№ 932, 933, 934, 935, 936. Орган абавязаны, згодна з законамі, даць інфармацыю аб сваіх намерах былым уласнікам або іх спадчыннікам. Тое паведамленне неабходнае дзеля атрымання «roszczenia publicznoprawnego, zmierzającego do „odzyskania" wywłaszczonej nieruchomości», пасля атрымання якога былы ўласнік мае **3 месяцы** для таго каб падаць сваю заяву на вяртанне экспрапрыяванай нерухомасці, і гэтая заява неабходная, «wiążąca» для органа, які выдае рашэнне аб вяртанні. Калі на працягу гэтых 3 месяцаў уласнік не робіць гэтых дзеянняў, значыць, гасне яго права на дамаганне вяртання экспрапрыяванай нерухомасці. Гэтае паведамленне з'яўляецца актам з абсягу публічнай адміністрацыі, вынікаючым з юрыдычных правіл, а такім правам з'яўляецца патрабаванне вяртання экспрапрыяванай нерухомасці. Адміністрацыйны орган **павінен выдаць** сваё адміністрацыйнае рашэнне наконт вяртання нерухомасці. У ацэнцы судоў, экспрыпрыяцыя з'яўляецца ўмяшаннем у сферу канстытуцыйнага права на ахову ўласнасці і магчымая (дапушчальная) толькі ў выключнай справе, дык незрэалізаванне мэты экспрапрыяцыі адмаўляе патрэбу такога ўмяшання. Патрабаванне вяртання экспрапрыяванай нерухомасці, пры недахопе рэалізацыі мэты экспрапрыяцыі не можа абмяжоўвацца ані заканадаўцам, ані тым больш органамі, прымяняючымі гэтыя законы. Вяртанне такой нерухомасці мае канстытуцыйны ранг!

(працяг будзе)

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Што мы ядзім?



У сённяшні час, калі ўсе жывуць у вялікім спеху, мы нават не маем часу задумацца пра важнасць яды і харчавання. Заходзім у магазін, бярэм першыя лепшыя прадукты і спяшаемся дамоў. Часта бывае так, што купляем ужо гатовыя стравы ў супермаркетах. Гэта вельмі дрэнна! З гэтай прычыны людзі таўсцеюць і хварэюць, напрыклад цукровым дыябетам. Варта часам задумацца і адказаць сабе на пытанне: што мы ядзім? Ведаем, што для дзяцей трэба даваць найлепшую яду. Яны растуць, патрабуюць адпаведных мікраэлементаў. А што з дарослымі? Трэба ведаць, што ў наш час няпроста купіць яду, якая будзе здаровай. Усюды дабаўляюць кансерванты, якія шкодзяць нашаму арганізму. Мы мусім быць вельмі ўважлівымі, купляць здаровыя, праверaныя прадукты. Трэба памятаць, што калі мы варым, нельга дабаўляць шмат солі, яна таксама шкодзіць. Папраўдзе, мы гэта ведаем і ўсе праблемы з нездаровым харчаваннем тлумачым недахопам часу...

Мы, маладыя людзі, датуль яшчэ не ў віры работы і цяжкага, дарослага жыцця, павінны падумаць, як ратаваць свет ад дэградацыі. Калі людзі стануць тоўстымі, яны будуць хварэць і наракаць. Свет для ўсіх будзе горшы. Варта падумаць пра гэта заранёў і здорава, свядома харчавацца. І ведаць адказ на пытанне: што мы ядзім?!

**Оля ЗІНКЕВІЧ,**
***«Белы слон»,***
*выпускніца бельскай «тройкі»*



Рэдакцыя «Васілёк»: Юстына Бакуненка, Эва Іванюк, Інэса Гапанюк, стаяць злева: Уля Марчук, Крыстыян Паскробка, Мікола Здрайкоўскі, Паўліна Ёдла, Юстына Астапковіч

**Інэса ГАПАНЮК,**
«Васілёк», выпускніца бельскай «тройкі»

## Адыдзі прэч!

Адыдзі прэч ад мяне,
Не хачу цябе ў сваім жыцці,
Ты мне непатрэбны.
Ну навошта ты мне?
Непатрэбна мне твая ласка,
Не хачу тваёй літасці.
Без цябе буду шчаслівай.
І прыходзіць цёмны вечар,
Месяц ужо ўзышоў.
А я гляджу ў ясныя зоркі,
А па твары тужлівыя
слёзы цякуць.

## Непаслухмяны зайчык



Жыў-быў у адным лесе маленькі зайчык. Жыў ён у невялікай норцы з мамай. Аднойчы пайшлі яны ў госці да цёткі лісіцы. Па дарозе зайчык убачыў дразда, які праляцеў высока над іх галовамі. Зайчык кінуўся дагнаць дразда. Бег ён доўга ці коратка, аж раптам здагадаўся, што заблудзіўся. А найгорш — нідзе не было ягонай мамы.

Сеў ён на дарозе і кліча:

— Мама, мама, а дзе ж ты?

Але навокал цішыня. Сеў зайчык на камень і горка заплакаў. А ў той час цётка лісіца і зайчыха выйшлі шукаць згубу. Мінула паўтары гадзіны, а зайчык усё сядзеў і плакаў.

Раптам ён убачыў маму і цётку ліску. Ён падскочыў ад радасці!

— Мама, мама, я больш не буду непаслухмяным, — заявіў зайчык.

З гэтай пары малы зайчык не бегаў ужо за драздамі.

**Юстына БАКУМЕНКА,**
*«Васілёк», НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

## УВАГА КОНКУРС! № 33-17

**На тоненькай ножцы**
**Стаіць,**
**Сонейкам на неба**
**Глядзіць.**
**С.......**
**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 20 жніўня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 30-17: магнітафон.**
**Узнагароды, наклейкі, выйгралі Дам'ян Карнілюк і Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Прыгожасць беларускай культуры бачаць людзі, якія не жывуць на Падляшшы!





Дыяна Нахіла і сябры «Сустрэч Зоркі»

*З **Дыянай НАХІЛА**, журналісткай агульнапольскай газеты **Biznes.meble.pl** гутарым пра фельетон, сілу тоеснасці і крыніцы натхнення.*

**«Белы слон»:** — *Адкуль Ваша зацікаўленасць дызайнам?*

**Дыяна Нахіла:** — Думаю, так як мы ўсе, я люблю прыгожыя рэчы і такія, што нам добра служаць. Мне цяжка сказаць, калі гэта ўсё пачалося... Напэўна, калі я пачала працу ў мэблевай галіне. Я зразумела, то гэты свет можна назваць дызайнам.

**Бс:** — *Што Вас захапляе ў жыцці? Прыгожыя рэчы?*

**ДН:** — Людзі! Напэўна людзі, якія маюць талент, здольнасці і яны працавітыя. Напэўна захапляюць мяне людзі, якія маюць мары і, нягледзячы на цяжкасці і перашкоды, умеюць іх здзейсніць...

**Бс:** — *Як праводзіце свабодны час?*

**ДН:** — Вельмі многа часу праводжу з сябрамі і блізкімі мне людзьмі. Так як кожны, маю свае малыя прыемнасці, люблю чытаць кніжкі і ездзіць на веласіпедзе.

**Бс:** — *Як Вы папалі на Сустрэчы «Зоркі»?*

**ДН:** — На Сустрэчы «Зоркі» мяне першы раз запрасілі шэсць гадоў таму, але пра вас я пачула больш за дваццаць гадоў таму назад. Я прачытала ў агульнапольскай прэсе для моладзі. Я тады яшчэ амаль нічога не ведала пра беларускае асяроддзе ў Польшчы. Мяне захапілі маладыя людзі, якія размалялі крыж у малой вёсцы на Беласточчыне. Тады я не думала, што да вас прыеду і будзем гаварыць пра дызайн і фельетоны.

**Бс:** — *Ці ў Вас, аўтаркі фельетонаў, ёсць нейкі аўтарытэт, калі ідзе пра гэты жанр журналістыкі?*

**ДН:** — У мяне няма такога аўтарытэту і гэта пэўна таму, што я проста недавучаная. Ва ўніверсітэце я штудзіравала паланістыку і прачытала шмат класічных фельетонаў. Дзякуючы таму я мела шмат кантактаў з літаратурай.

**Бс:** — *Як бачыце беларускую культуру? Ці яна дапамагае Вам у працы?*

**ДН:** — Вядома, што так. Беларуская культура для мяне гэта грамадства, тоеснасць, традыцыя.

Прыгожасць беларускай культуры прыкмячаюць многія людзі, асабліва тыя, якія не жывуць на Падляшшы і не маюць з ёю штодзённага дачынення.

Цікавымі з'яўляюцца рэчы, запраектаваныя людзьмі, якія дацэньваюць свае карані. Такія праекты адметныя і непаўторныя.

**Бс:** — *Вы часцей чытаеце фельетоны ў інтэрнэце ці ў традыцыйнай газеце?*

**ДН:** — Я часцей сустракаюся з газетнай, традыцыйнай формай. Але чытаю фельетоны ў інтэрнэце, калі яны адносяцца да маіх зацікаўленняў.

Гутрку апрацавалі
**Оля Зінкевіч і Караліна Каравай, «*Белы слон*»**

**Вікторыя Гаць,**
«Белы слон», вучаніца бельскай «тройкі»

***

Ходзіць-бродзіць хмара
на вясёлым небе,
Туды загляне,
сюды загляне...
Раптам — вецер зашумеў,
Засвістала ўсюды
Хмару штосьці панясло
і грымеці стала:
— Усе хавайцеся дамоў!
— Вецер мяне гоніць!
— Уцякайце ўсе хутчэй,
людзі са свайго поля!
Лінуў дождж, загрукатала...
Хмара крычаці перастала.
Сонейка зноў ясна свеціць.
Не бойцеся
чорнай хмары дзеці.

## Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**№ 33-17**

**Адказ на крыжаванку № 29-17:**
Гара, бор, фонд, згода, Ас, мэта, лета, Лі, ласы, суп, бант, фіга. Бард, ар, лан, змест, гэты, фота, мода, Сі, на, луг, ліпа.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Вікторыя Гаць** і **Дам'ян Карнілюк** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!



# Развітанне з генералам

**Яшчэ стаяць знічы пад помнікам савецкаму генералу. Ставяць іх больш свядомыя ўраджэнцы навакольных вёсак. Свядомыя ў грамадскім сэнсе, якім неабыякавыя мясцовая мова, традыцыі, гісторыя. Выдаваць іх прозвішчы не збіраюся, паколькі сапраўдныя ідэалісты славы звычайна пазбягаюць. У любым выпадку ў галоўныя памінальныя дні царкоўнага календара знічка альбо дзве заўсёды гараць пад згаданым помнікам.**


Зарослыя травой сходы да помніка


Белагорцы. Месца, у якім загінуў Жалудзёў на сваім кані

Віталь Гарбуз, 1931 года нараджэння, пра падзеі Другой сусветнай вайны гаварыў мне неаднойчы. Заўсёды кульмінацыйным пунктам ягоных успамінаў была трагічная смерць савецкага генерала Віктара Жалудзёва. Генерал кватараваў у Белагорцах, непадалёк вясковых крыжоў. Гэтай хаты ўжо няма. Паводле ўспамінаў спадара Гарбуза, фронт 1944 года быў настолькі жахлівым, што мала каторая хата ў вёсцы ўцалела. Добра ўзброеныя і адкормленыя немцы seклі, быццам траву на лузе, галодных чырвонаармейцаў. Праўда, спадар Гарбуз тлумачыць, што і саветы надта не галадалі, дзякуючы дапамозе мясцовага насельніцтва. Параненых і забітых, фурманка за фурманкай, быццам гэтае сена, перавозілі ў санітарныя пункты, размешчаныя побач лініі фронту. Нямецкая куля дастала і генерала Жалудзёва перад яго белагорскай хатай.

Паводле, нашмат малодшага за спадара Віталя, Збігнева Пятэльскага гісторыя смерці Жалудзёва выглядае крыху інакш. Збышак — апошні белагорскі земляроб — даведаўся пра гэта ад свайго даўно памерлага бацькі. Жалудзёва, быццам, забілі, калі едучы вярхом на белым кані, папаў у белагорскую багну. Дакладна ў гэтым месцы сёння пасвяцца Збышкавы каровы, паколькі багна знікла пасля неразумнай меліярацыі, праведзенай тут у сямідзясятых гадах прошлага стагоддзя.

Як бы не глядзець, помнік Жалудзёву паставілі не ў месцы яго смерці. Спадар Гарбуз тлумачыць, што калі б стаяў ён у Белагорцах, ніхто, апрача вяскоўцаў, яго б не бачыў. Яму таксама цікава даведацца, дзе пахавалі цела генерала.

Вялікі камень стаіць на ўзгорку ў Трэйглях, пры самой крынска-крушынянскай шашы. Цяпер для чужых гэта толькі камень. Няма на ім ніякай інфармацыйнай дошкі. Побач з каменем тырчаць жалезныя мачты без сцягаў. І толькі чырвоныя, шкляныя знічы з'яўляюцца адзіным сімвалам памяці пра франтавыя падзеі.

Пытаю Збышка, ці ведае, калі з каменя знялі інфармацыйную дошку.

— Ніхто яе не здымаў, — тлумачыць удакладняючы, што яе здымаюць і вешаюць.

Не веру ў ніводнае яго слова, але слухаю, не перапыняючы, прыкмеціўшы, што сам ён сапраўды верыць у сваю казку.

— Дошка вельмі каштоўная, — працягвае, — з каляровага металу. Гміна баіцца, што яе ўкрадуць, таму вешае толькі з нагоды больших святкаванняў — ці то Дня Перамогі, ці Першага Лістапада. Штодзень трымаюць яе недзе ў гміннай управе. Там нават жанчыны, у рамках камунальных прац, траву вакол помніка косяць, вырываюць зелле з каменных сходаў. Так ты ж сёння тудою праязджала, павінна прыкмеціць.Там я нават вянок бачыў, ад гміннай управы, і знічы таксама яны там стаўляюць.

Жаль мне стала Збышка, які не дапускае да сябе думкі, што помнік згодна новаму закону зусім ліквідуюць.

— Не можа быць, закон тычыцца камунізму, — працягвае. — А які тут камунізм, якая сувязь камунізму з гэтым помнікам? Гэта ж генеральская магіла.

Збышак, які вучыўся ў Крушынянах, помніць упарадкоўванне месца вакол помніка і ганаровыя варты гарцэраў з яго школы. На яго думку, школа ў Крынках ніколі ў гэтым не ўдзельнічала.

Спадарства Гарбузоў таксама вельмі ўзбударажыў план ліквідацыі помніка. Ведаюць, што тут не Гайнаўка і ніхто з мясцовых пратэставаць супраць такога рашэння не будзе.

— І каму ён перашкаджае? — пытаюць. — Гэта ж яны за нас ваявалі, вызвалялі ад немцаў.

Але нават над немцамі мясцовыя літаваліся. Вера Гарбуз, якой ужо больш за восемдзесят гадоў, згадвае родныя Азяраны-Вялікія. У адну з хат прывалаклі параненага нямецкага жаўнера. Вясковыя жанчыны са спачуваннем абмывалі ягоныя раны хатнімі ручнікамі. Спадарыня Вера помніць, што жаўнер на адной са зразумелых мясцовым моў сказаў:

— Навошта мне ваша Беларусь, мяне ў хаце жонка і дзеткі чакаюць.

Збышак лічыць сябе палякам, але так як і яго праваслаўныя суседзі думае, што помнік павінен застацца. Заўважае, што месцаў памяці ў Крынскай гміне засталося няшмат. Навошта іх тады ліквідаваць?

Калі я запытала, як яго бацька ўспамінаў савецкіх жаўнераў, адказаў, што ніколі кепскім словам. Чуў, што недзе яны рабавалі і гвалтавалі жанчын, але ў Белагорцах гэтага ніколі не дапускаліся.

Праўду кажучы, дэмантаж помніка адбыўся пры нагодзе зняцця памятнай дошкі. Цяпер вялікі валун на ўзгорку сімвалізуе вялікую невядомую, загадку, на якую адказ ведаюць толькі апошнія жыхары навакольных вёсак. Яны будуць помніць і ганарыцца Жалудзёвым, нават калі забяруць ім гэты камень.

Тэкст і фота **Іаанны ЧАБАН**

# Мае Дні Крынак

Прыцягваюць амаль усіх крынчан. Арганізуюць іх заўсёды ў другой палове ліпеня, на пляцоўцы побач з басейнам, што па вуліцы Касцельнай. Жонкі адзяваюцца тады ў найлепшую вопратку і прахаджваюцца з мужыкамі, абавязкова за ручку, галоўным пераходам паміж піўнымі палаткамі, якія прыцягваюць шмат народу. Адным словам, ёсць нагода пахваліцца сваімі жыццёвымі поспехамі, а з іх найважнейшым — сямейным шчасцем. Бывае і так, што жонкі вядуць за руку п'янюсенькіх мужыкоў, але яшчэ горш, калі такога п'яніцу адводзіць дахаты ўласная дачка.

Трэба сказаць, што ў мяне асабіста ахвоты да ўдзелу ў гэтым мерапрыемстве зусім не было. Толькі што «падзякавалі» мне за працу ў школьнай бібліятэцы, у якую ўклала я столькі сэрца і энергіі. Адным словам патлумачылі, што настаўніца з мяне кепская, пры тым параілі шукаць шчасце далёка ад Крынак, паколькі тут адназначна яго ніколі не знайду. І ў чым жа я горшая за гэтых, якія мне так сказалі?

Такім чынам першы і другі з трох Дзён Крынак правяла я на інтэнсіўнай працы ва ўласным агародзе. Нішто так не ўзмоцніць цела і душу як фізічная нагрузка з матыкай, пілой, сякерай ці граблямі. Да маіх вушэй здалёк даходзілі святочныя выступленні калектываў. У асноўным модная цяпер польская і англійская папса васьмідзясятых гадоў у жывым выкананні. Магчыма, быў гэта замешчаны на афішы «Уайт Сток», які асацыюецца мне чамусьці з загалоўкам і зместам славутай кніжкі Концкага. Ну, а пасля да позняй, цёплай ночы традыцыйна гучала ўжо дыска-пола. Паўната жыцця, паўната шчасця. Ім там, а мне тут.

Абавязкі паклікалі мяне трэцяга святочнага дня. Яшчэ да поўдня, выпіўшы каву, закінула я на плечы бацькоўскі акардэон, вагой роўнай мне, і памаршыравала з дачкой у аднолькавых кашульках «Заранкі» на другі канец Крынак. Дацягнуўшыся на месца, прысела для адпачынку, прытым не там, дзе трэба. Побач мяне на той жа лавачцы пачалі збірацца важныя людзі, якія трактавалі мяне быццам паветра. Ну і глядзіш на адну, другую, хочашужо рот разявіць, каб «чэсць» сказаць і ніяк не атрымліваецца. Больш таго, нават некаторыя гімназісты, якія цэлымі днямі сядзелі са мной у бібліятэцы, таксама мяне не распазналі. Калі я першай аднаму пакланілася, кінуўся з прэтэнзіяй: «А ці вымушаны я вам „дзень добры" гаварыць?». Праўда, мусу ніякага няма, ёсць толькі асабістая культура, пра якую выпадае тут забыць. А можа сапраўды ўсё гэта толькі мне сніцца, а можа целам я ўжо далёка ад Крынак і толькі душа яшчэ тут блытаецца, быццам жыд, якога выгналі з роднай хаты. «Няма чаго сядзець і на іх углядацца, трэба брацца за працу», — падумала я сабе. Да канцэрта заўсёды выпадае зрабіць нейкую размінку, а найлепш з мікрафонамі. На жаль, аказалася гэта немагчымым. Якраз у касцёле маліліся і мне паяснілі, што мікрафоны перашкодзяць у малітве. А зноў два даступныя пры басейне пакойчыкі былі забраніраваны іншым крынскім калектывам — там мелі неўзабаве рэпеціраваць спявачкі з «Экзіту» і «Пагоднай восені». Але і з гэтымі непрыемнасцямі я неяк справілася. З «Заранкай» рэпеціравалі мы на сходах пад дзвярыма згаданых пакойчыкаў.

Вельмі не хацелася выходзіць на сцэну не толькі мне, але і маім дзеткам. Шыман адмовіўся нават ад выканання сваёй сольнай партыі.

Каб эмацыянальна справіцца з нашым амаль гадзінным выступленнем, іграла я задам да публікі а тварам да спяваючых дзяцей. Толькі зыходзячы са сцэны я адвярнулася, каб пажадаць усім людской, узаемнай дабрыні. Жаль толькі, што найважнейшыя з важнейшых ужо гэтага не пачулі, якраз урачыста абедалі ў мясцовым рэстаране.

Зразу пасля нас, таксама з беларускім рэпертуарам, выступіў калектыў з Гародні. Звацьіх «Фабрычны каларыт». Тры жанчыны і адзін мужчына (астатніх членаў калектыву не ўпусцілі ў Польшчу) спявалі вельмі прыгожа, шкада толькі, што пад фанаграму. Маглі б пад баян, той жа мужчына гэта выдатны баяніст. «Фабрычны каларыт», так як «Уайт Сток», вельмі мяне заінтрыгаваў сваёй назвай. Патлумачылі мне, што гэта ў гонар птушкафермы, у тым ліку гадавальніка курaнят. Звярнула я таксама ўвагу на іх незвычайнае адзенне — ільняныя цяжкія бел-чырвона-белыя сукні, таксама фабрычнай вытворчасці. І, здаецца, быў гэта другі і апошні беларускі эпізод трохдзённых Дзён Крынак. Пра астатняе, польскамоўнае, распісвацца ў беларускай газеце не буду. Беручы пад увагу незвычайную атмасферу, прыгадаю толькі выступленне польскамоўнага калектыву «Рокі». Вядзе яго мой брат Пётр, а іграе ў ім таксама заказаны ў беларускія песні яго сын, ужо шасцікласнік, Павел. На жаль, па-беларуску Павел спявае толькі ў маёй хаце. Выпадае цешыцца, што цягне яго ў гэты культурны бок. На позняе выступленне калектыву «Рокі» з'ехаліся ў асноўным вясковыя людзі.

— Калі ты выступала, — кажа мне Гжэсек, гаспадар з Астраўка, — я яшчэ кароў даіў.

Прыехалі цэлымі сем'ямі, з жонкамі, мужыкамі, дзяцьмі, з Піражкоў, Астраўка. Гэта былыя вучні маіх бацькоў, з якімі знаёмы мы з дзяцінства. І ўсе мы, уключаючы маю маму, селі разам, на адной лаўцы, на суседніх лаўках. Рысевая Аля сказала, што ўчора атрымалася ім так сабрацца пад хатай у Астраўку, з Аняй Парэцкай, яе мужыком, Марыёляй і шмат з кім яшчэ. Прыехалі спецыяльна, каб падтрымаць выступленне майго брата. Наша чародка здавалася райскай выспай на зямным падоле, вяртаннем у часы, калі людзі ў асноўным шанаваліся, жадалі сабе дабра і бескарысна дапамагалі адзін аднаму.

Падчас канцэрта не абышлося без шматлікіх віншаванняў ад калектыву: для цэлай сям'і Чабаноў, усім прысутным сябрам, у тым ліку заслуханай Ані — аднакласніцы брата, якая ніяк не можа забыць прыгожасці яго вачэй. На развітанне з публікай брат сказаў, што нават калі больш яго не запросяць, усё-такі прыедзе сюды, хаця б каб спраўдзіць, як жывецца суседзям з-за плота.

Прыемных хвілін паявілася больш. Падыходзілі да мяне бліжэй невядомыя людзі, якія дзякавалі за выступленне «Заранкі». Падбадзёрвалі, што гэта вельмі важная справа, некаторыя падкрэслілі сімпатыю да акардэона, прыгадвалі майстэрства ігры на гэтым інструменце майго бацькі. Праўду кажучы, зачаплялі мяне пасля ў крынскіх крамах і на вуліцы:

— Гэта вы так прыгожа ігралі? — пыталі з недаверам.

— Я таксама іграю, толькі на гітары, — прызнаўся адзін старэйшы мужчына. Прагучала быццам нясмелая прапанова супрацоўніцтва.

А можа ўсё яшчэ наперадзе?

**Іаанна ЧАБАН**

# Спорт і рэкрэацыя ў Арлянскай гміне

У Арлянскай гміне былі добрыя, а зараз вельмі добрыя ўмовы для спартыўных заняткаў і рэкрэацыі. Тэрыторыя гміны цікавая ў турыстычным плане і спрыяе каратанню свабоднага часу. Блізкасць Белавежскай пушчы ды рачныя ўзбярэжжы прычыняюцца да таго, што мясцовыя і прыезджыя ахвотна праводзяць тут свабодны час.

Важным фактарам з'яўляецца спартыўная інфраструктура і пра яе, як аснову фізкультуры, дбаюць асаблівa цяперашнія ўлады гміны. Трэба аднак заўважыць, што даўней, калі не было такой інфраструктуры, зацікаўленасць спортам была значна большая. Змяніўся час, змянілася і моладзь; цяпер на пад'ёме электроніка і камп'ютары.

Многія з нас любяць спорт, нават пасіўна, аглядаючы па тэлебачанні спартыўныя перадачы. Спорт — гэта і культура, і агульнае дабро, а галоўным чынам здароўе і радасць, задавальненне ад добрых вынікаў і перамог. І яшчэ адно — спорт у школе гэта больш бяспечна на вуліцах, калі маладыя людзі вышумяцца на занятках. Сёння элітарны спорт павязаны таксама з рэкламай і бізнесам ды з афёрамі, судамі, допінгам...

Даўней, пры камуне, усё адбывалася быццам інакш, спакайней, натуральна і з запалам. Вялікую ўвагу трэба адвесці аматарскаму спорту. У цэлай краіне дзейнічала тады арганізацыя ЛЗС (Ludowe Zespoły Sportowe). У 1960-1970-х гадах амаль у кожнай большай вёсцы была свая спартыўная каманда, але стандартную на той час футбольную пляцоўку мела толькі Орля. Пасля зацікаўленасць футболам пайшла на спад, пляцоўка заняпала, пасля яе нават зааралі, зарасла травою і стала пашай для кароў — гэта ў старым садзе.

У пачатку 1980-х гадоў кашалёўская моладзь пабудавала грамадскім чынам спартыўную пляцоўку побач сваёй вёскі („Ніва" ад 20 ліпеня 1997 г. — „Грамадскі прапагандыст фізкультуры"). Адрадзілася футбольная каманда, якая называлася LZS Кашалі, а з 1989 года прыняла назву SPiUR Орля; зараз гэта GKP (Gminny Klub Piłkarski) Орля.

У эпоху, калі пра камп'ютары можна было толькі марыць, а тэлевізары былі рарытэтам — часта ўзорам для перайманя быў здаровы лад жыцця і заняткі спор-



там. Да спорту гарнуліся хлопцы каля дваццацігадовага ўзросту. У 1960-1970-х гадах абсалютна не курылі папярос і нават піва не пілі; не было такой моды, тады моладзь была іншая. У палове 1960-х гадоў у Орлі завязалася секцыя цяжкаатлетаў. І многія маладыя хлопцы ў ёй займаліся, ездзілі на спаборніцтвы. Пазней не стала трэнера, не пашанцавала даўжэй цешыцца зямным жыццём. Прайшлі гады, моладзь пачала „гуляць" і адышла ад спорту.

Асабліва таленавітыя арляне вылучыліся ў папулярызацыі многіх галін жыцця не толькі ў маштабе свайго ваяводства. Больш дваццаці гадоў на беластоцкім стадыёне ў Звярынцы ладзіўся мемарыял Аляксандра Войны, народжанага ў Орлі настаўніка фізкультуры і знакамітага трэнера. Памёр нечакана ў лютым 1990 года, пражыўшы адно 50 гадоў. З таго часу на стадыён прыязджалі ягоныя калегі, былыя чэмпіёны, і прымалі ўдзел у спаборніцтвах разам з моладдзю.

Спартыўная інфраструктура важная, але ж дастаткова згадаць, што калісь маладым хапіла толькі мець сапраўдны мяч. Добра помню са свайго юнацтва, як у 1960-х гадах, даязджаючы ў арлянскую школу, вучні са Шчытоў прывозілі з сабою „мяч" з намотанага ў вялікі клубок шмоцця — каб у перапынках паміж урокамі пагуляць. Здаралася, што падбівалі нагамі нейкую банку. Ніхто тады не мог сабе дазволіць купіць сапраўдны мяч. А калі хто меў нейкі стары мяч, то ён лічыўся ўжо „кімсь". Гулялі на пяску, на пашы. А сённяя? Моладзь ступае па пляцоўцы як па нейкім дыване з травы або з сінтэтычнага матэрыялу. А і так ахвотных няма, хіба што гэта ўрок або нейкая імпрэза.

У школьным комплексе ў Орлі ёсць поўнагабарытная спартыўная зала, якою пасля школьных заняткаў могуць карыстацца мясцовыя жыхары. Самакіраванне Арлянскай гміны ўзорна дбае пра шырока разуметую фізкультуру насельніцтва, не шкадуе фінансавых сродкаў на інфраструктуру. Паводле інфармацыі арлянскай Гміннай управы, у 2016-2017 гадах за гмінныя сродкі і дафінансаванне (30%) з Міністэрства спорту і турызму коштам у 478 500 злотаў (у тым 148 900 зл. з МСіТ) быў перабудаваны спартыўны аб'ект у Кашалях і ўстаноўленае лёгкаатлетычнае абсталяванне запар з суправаджальнай інфраструктурай. Выканана была таксама агароджа коштам у 42 100 зл.

У 2012 годзе ў Орлі пры Комплексе школ пабудаваны быў спартыўны комплекс „Moje boisko — Orlik 2012", на які выдаткавалі звыш паўтара мільёна злотаў (у тым 633 тыс. дафінансавання з МСіТ і 200 тыс. з Падляшскай маршалкоўскай управы). У 2013 годзе пры той жа школе пабудавалі гульнявую пляцоўку за амаль 112 тысяч злотаў (у тым амаль 56 тыс. датацыі з урадавай праграмы „Радасная школа").

У 2014 годзе ў цэнтры Орлі пабудавана была трэнажорная мініўстаноўка за амаль 81 тысячу зл. (у тым 52,6 тыс. з Праграмы развіцця вясковых абшараў на 2007-2013 гг.).

У 2016 годзе ў Кашалях і Дыдулях пабудавалі гульнявыя пляцоўкі коштам звыш 10 тыс. кожная.

У 2017 годзе дзеля ўзбуйнення турыстычна-рэкрэацыйнай прывабнасці Арлянскай гміны шляхам стварэння месцаў для актыўнага адпачынку — пабудовы гульнявых пляцовак з трэнажорнымі міні-ўстаноўкамі ў Малінніках, Міклашах і Вульцы-Выганоўскай — гміна атрымала дафінансаванне (у рамках Праграмы развіцця вясковых абшараў на 2014-2020 гг.) агульнай вартасцю звыш 47 тыс. злотаў (плюс уласны ўклад пад 27 тысяч). Кошт адной пляцоўкі — амаль 25 тысяч (агулам у трох названых мясцовасцях амаль 75 тысяч).

Мяркую, што мясцовыя жыхары, а таксама прыезджыя, павінны быць задаволены і належна дацаніць намаганні самаўрада. Але як сузіраю па Орлі, то зацікаўленасць трэнажорнай міні-ўстаноўкай мізэрная. Рэдка можна пабачыць кагось занятага на прыборы. Але спадзяюся, што большая зацікаўленасць прыйдзе з часам.

❖Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**

# У арлянскім ГАК

## Размова з Аннай НЕСЦЯРУК, дырэктарам Гміннага асяродка культуры ў Орлі.

**— Пачатак канікул, гэта многа працы ў арлянскім ГАК...**

— Так. Два тыдні напружанай працы з дзяцьмі — каля пяцідзесяці асоб з Орлі, у тым ліку шасцёра дзяцей з Беластока, якія прыязджаюць да бабуль; яны прыходзяць на нашы заняткі. Сёлета не забракла атракцыёнаў, стараемся, каб кожны год было штосьці новае — мастацкія задумы, паездкі.

Сёлета ездзілі ў маёнтак Гавены ў Памігачах каля Беластока, дзе дзеткі мелі магчымасць удзельнічаць у гульні, якую прыгатавалі аніматары. І было вельмі весела, калі падыходзілі да штучнай каровы і стараліся яе выдаіць. Было таксама збіранне бульбы і скокі цераз цюкі.

У маёнтку стаяць старыя хаты, побач якіх можна зладзіць касцёр. Ёсць там міні-заапарк, розныя птушкі, кенгуру, малпы, бараны, папугаі, нават вярблюд. Кошт з вогнішчам і каўбаскай гэта 35 злотаў ад асобы. На цэлы дзень — 4 гадзіны — гульняў, кошт невялікі. Сёлета ездзілі вялікім заказным аўтобусам на 50 пасажыраў.

На канікулах неабходна наведаць кіно ў Беластоку. Глядзелі анімаваную казку «Міньёны»; яна ў версіях 3D і 2D. А некаторых дзяцей радуе сама паездка аўтобусам і ласаванне папкорнам.

Пасля двух тыдняў заняткаў у ГАК мы бачым, што нашы дзеці рознага ўзросту, розных характараў, з розных сем'яў ствараюць такую сапраўдную вялікую сям'ю Гміннага асяродка культуры, які працуе з імі, да нечага іх рыхтуе. Стараемся іх прыгатаваць да пазнейшага ўдзелу ў праектах, на якія мы прыдбалі сродкі з Ваяводскага асяродка анімацыі культуры, у іх ліку фатаграфічныя ці фільмавыя майстар-класы. Спадзяюся, што гэтыя заняткі зацікавяць дзетак.

Можна сказаць, што нас вельмі цешыць, што столькі дзетак прыходзіць да нас і што яны хочуць працаваць з нашымі інструктарамі. У чэрвені г.г. пачалася ўжо пабудова новага будынка цэнтра культуры ў Орлі і нас вельмі радуе, што дзеткі дапытваюць: «А што там будзе? Ці будзе там вялікая зала, святліца, камп'ютары?..» Некаторыя проста не могуць дачакацца, калі мы туды заглянем, увойдзем, пабачым...

І так аптымістычна думаю, што ёсць і розныя адгалоскі на гэтую тэму, бо некаторыя ставяць пытанне: «А каму і навошта гэты будынак?» Можа гэта не будзе вялікі цэнтр, але будзе тым цэнтрам, які патрэбны цяпер. Патрэбная нам канцэртная зала, месца для розных мерапрыемстваў. Таксама патрэбныя памяшканні для калектываў, якія працуюць пры ГАК, патрэбная святліца і залы для дзетак, якія хочуць развіваць свае зацікаўленні. І мы ствараем магчымасць іхняга выхаду ў свет з назапашанымі ў нас ведамі і вопытам.

Думаю, што цэнтр прыме настаўнікаў з іхнімі праектамі, каб маглі працаваць у лепшых умовах. Ён будзе служыць тым жа дзеткам, якія ходзяць у арлянскую школу. Школа працуе з імі ў школьны час, а мы працуем па суботах і нядзелях. Школа гэта навука, абавязак, а ў нас заняткі для дзяцей ахвотных і не за ацэнку. І гэта вучыць моладзь працаваць бескарысліва для самой Орлі, каб штосьці засталося пасля нас, каб даследаваць нашу гісторыю, каб яе запісаць ці то праз пасрэдніцтва тэатральных заняткаў, дзе збіраем розныя легенды і аповесці. У нас працуе тры ці два пакаленні людзей і тое наймалодшае пакаленне глядзіць як старэйшыя спяваюць песні, не саромеюцца сваёй гаворкі, працуюць на прамоцыю нашай гміны. І некаторыя з іх будуць тут пасля выступаць. Наша цяперашняя праца дасць плён.

**— Ці Вы, як студэнтка, а пасля настаўніца, не планавалі, не прадбачвалі, што Ваша далейшае жыццё будзе знітавана з культурай? Пытаю таму, што бачу вялікі запал і быццам прызванне на працу ў ГАК.**

— Напэўна, калі б хтосьці пятнаццаць гадоў таму, калі я канчала беларускую філалогію ў Любліне, сказаў, што я буду працаваць у цэнтры культуры, што буду аніматарам культуры, то я б здзівілася. Гэтая праца, можна сказаць, для абраных. У аднаго чалавека павінна быць некалькі пастасей; гістарычная ці іншая. І хіба я іх мела ў сабе. А трэба было навучыцца працаваць з дарослымі людзьмі, бо гэтая праца патрабуе развагі, а мне, бывала, не ўдавалася згаворваць з людзьмі. Аднак чым больш чалавек працуе, тым больш і вучыцца; ды і так усяго не спазнае.

**— ГАК шмат увагі прысвячае публікаваным у беларускіх газетах матэрыялам пра наша мінулае.**

— Дамовіліся мы з нашым аніматарам, гісторыкам і краязнаўцам, які збіраў матэрыялы пра нашых людзей — спадаром Міхалам Мінцэвічам. Плануем да канца года выдаць кніжку-альбом «Адыходзячы свет прафесій і пасій жыхароў Орлі і наваколля». Кніжка вельмі цікавая. Думаю, што кожны, хто яе возьме ў рукі, пазнае гісторыю не толькі прафесій, але і сапраўднае жыццё, а жыццё кожнага чалавека можа чытача многаму навучыць. І хаця часткі герояў ужо няма ў жывых, але іх мудрасць засталася ва ўспамінах. Яна ўвесь час вартасная, няглядзячы на тое, што свет мяняецца і ідзе наперад. Я, калі працую над гэтай кніжкай, думаю, што ўсе гэтыя людзі, якіх ужо няма, калі б апынуліся ў сучасным свеце, яны маглі б нас навучыць галоўным чынам такога спакою. Бо свет усё паскарае, прынамсі калі назіраем за маладымі, яны ўжо амаль не размаўляюць з сабою. Людзі ўжо не сядзяць на лаўках пры хатах. Чаму? Бо ёсць інтэрнэт, фейсбукі, тэлевізар. А мы будзем намагацца, калі ўжо будзе новы цэнтр, унушыць, гэтак як кажам увесь час моладзі, што непасрэдная, на свае вочы, размова ёсць найважнейшая ў жыцці.

Маем такі выдавецкі план, бо спадар Міхал Мінцэвіч мае шмат цікавых і каштоўных матэрыялаў. І думаю, што ўсё будзе добра, што будзем мець на гэта сродкі; сёлета першая кніжка.

**— Дзякую за размову.**

❖Гутарыў **Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Засталіся адно ўспаміны (15)



З Янкам Блізнюком пазнаёміліся мы ў 1959 годзе, калі я працаваў інструктарам БГКТ у Гайнаўцы. Янка выступаў у „Лявонісе”. Неўзабаве ажаніўся з танцоркай калектыву Лідкай Гайдук. Памятаю супольную паездку ў Мілейчычы з канцэртам. Непрыемны ўспамін захаваўся, калі бэгэкатоўскі аўтобус хуліганы абкідалі камянямі. Міліцыя затрымала вінаўнікаў, але зараз і адпусціла... Па кумаўстве, разумеецца. Пасля нашы дарогі разышліся. Але ненадоўга. Як пачаў я ездзіць з кінаперасоўкай, дык заехалі ў Дубічы-Царкоўныя. Першым госцем, які пагрукаў у дзверы машыны быў... Янка Блізнюк. Шчырае прывітанне, успаміны. З таго, што я даведаўся ад прыяцеля, гэта тое, што Янка расстаўся з жонкай. З „Лявоніхі” таксама адышоў. Вярнуўся ў Дубічы і зараз дапамагае бацьку-святару прыслужваць у царкве. Калега запрасіў на абед. Так пачалося маё знаёмства з сям'ёю бацюшкі Блізнюка. У Янкі, як прыпамінаю, было двух братоў — Жэнік і Віктар (імя бацюшкі не захавалася ў памяці). Да абеду сядалі мы ў кампаніі з трох чалавек: Янка з бацюшкам і я. Так было заўжды, калі мы заязджалі ў Дубічы-Царкоўныя. Малодшыя браты вучыліся ў школе і не прыходзілі на кінасеансы. А мой прыяцель любіў кампанію і не прапускаў нагоды для выпіўкі. Таму пры спажыванні абеду на плябаніі на стале было спіртное.

Кінасеансы дэманстравалі мы ў школьнай зале. Зала невялічкая. З таго, што прыпамінаю, зарэгістравана была на трыццаць пяць месцаў. Школьнікам высвятлялі два сеансы: першы для малодшых вучняў I-IV класаў, затым для старэйшых V-VII класаў. Кіраўніком школы быў Юрка Койла. Памятаю яшчэ Юрку Несцерука і настаўніцу родам з Пагулянкі. Яе прозвішча вылецела з памяці. Юрка Несцярук займаўся школьным фатаграфічным кружком. Наша кінабрыгада ладзіла з настаўнікамі станоўчыя адносіны. На вячэрніх сеансах прысутнасць была значная, камплект гледачоў з лішкам. Але я прыплюшчваў на гэта вока. Рызыкаваў пры тым, але не хацеў пазбаўляць знаёмых аматараў кіно адзінай у вёсцы „разрыўкі”. На ранішнікі настаўнікаў мы прапускалі без білетаў. На гэта дазвалялі інспектары ВПК. На вячэрні сеанс прапускалі па-за чаргой і бясплатна школьнага стоража, які ў кожнай школе забяспечваў нас вугалем для печкі ў машыне, а неадночы прыносіў харчовыя прадукты: аржаны хлеб вясковай вытворчасці, малако ці бульбу. Аднойчы Янка запрасіў мяне на царкоўны фэст Пятра і Паўла. Святочнае застолле ў гэты дзень захавалася ў памяці па сёння. Пасля святочнай багаслужбы запрошаныя госці спаткаліся на плябаніі. Святары з прыслугай гасцявалі ў вялікім пакоі, апошнія госці — у суседнім меншым пакойчыку. Стол быў багата застаўлены, у асноўным гарачымі стравамі. Было ўсё, чаго душа патрабуе. А пасля некалькіх гадзін усе падаліся ў прысядзібны сад. Кампанію весяліў бацюшка з Вэрстока — а. Грыгорый, як не памыляюся. Яго прыпеўкі-частушкі давалі мне многа для роздуму. Але, праўду сказаўшы, фэст Пятра і Паўла і вясёлую кампанію з Дубіч-Царкоўных ніколі не забуду. Як мне вядома, у вечны спачын адышоў мой сардэчны прыяцель Янка Блізнюк. Памёр і малодшы брат Віктар. Здаецца, застаўся адно Жэнік. Затым і сама вёска змянілася. Але аб гэтым іншым разам.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

# Дойная карова

Як інфармуе штодзёнка «Super Express» у міністэрствах выплачваецца шматзначныя прэміяльныя для чыноўнікаў. Найбольшыя прэміяльныя атрымалі чынушы ў Міністэрстве замежных спраў (52,5 мільёна злотых). На другім месцы апынулася Міністэрства фінансаў, дзе дзяржаўны бюджэт (нотабена з кішэні падаткаплацельшчыкаў) паменшыўся на 53 мільёны злотых. Аднаму дырэктару выплацілі 30 тыс. злотых. У Міністэрстве працы, сям'і і сацыяльнай палітыкі было выплачана 11,4 мільёна злотых. Міністр Альжбета Рафальская патлумачыла, што прэміяльныя былі выплачаны за спраўнае правядзенне самых важных праектаў — 500+ і праграмы «За жыццём». Найменш атрымала ведамства Збігнева Зёбры. Самая высокая прэміяльная стаўка гэта 5,5 тыс. зл. Газета канстатуе, што ад пачатку кіравання ПіС краінай, значыць ад лістапада 2015 года, на прэміяльныя ва ўсіх ведамствах выдадзеных было 160 мільёнаў злотых, прычым ад пачатку гэтага года 52,2 мільёна злотых. Ці ж гэта, даражэнькія, не «добрая змена»?

**(ус)**




На мінулым тыдні „Ніва” пісала пра „Акадэмію Астрагорскага”, дзе кожны жадаючы можа атрымаць веды па гуманітарных і эканамічных навуках абсалютна бясплатна і пры дапамозе інтэрнэту. Цяпер прыйшла пара больш дэтальна пазнаёміцца з той арганізацыяй, якая ўласна і ёсць ідэйным натхняльнікам дадзенай акадэміі.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце **http://ostrogorski.org**, то ён апынецца на старонцы „Цэнтра Астрагорскага”, які раней называўся „Цэнтрам пераходных даследаванняў”. Перад вачыма наведвальніка адкрыецца сайт, пабудаваны як старонка газеты XX стагоддзя, калі загалоўкі былі малымі па памерах, а колькасць нататкак значна большай, чым у цяперашніх газетных экземплярах.

Галоўная старонка падзяляецца на тры часткі. Прычым выйсці на рубрыкі месцяцца ўверсе цэлага выяўлення. „Цэнтр Астрагорскага — прыватная некамерцыйная арганізацыя, якая займаецца праблемамі, з якімі сутыкаецца Беларусь у часе свайго пераходу да рынкавай эканомікі і вяршэнства права. Праца цэнтра накіраваная на дасягненне практычных вынікаў”, — распавядаюць супрацоўнікі Цэнтра на старонцы „Пра нас”. Паводле іх, апошнія дзесяцігоддзі былі часам хуткай трансфармацыі ў Беларусі ва ўсіх галінах: ад бізнес-клімату да рэлігіі, адукацыі і бяспекі, а аналітычныя цэнтры застаюцца пераважна нацыянальнымі ініцыятывамі, звязанымі са светапоглядам адной краіны. „Са сваімі шматнацыянальнымі і параўнальнымі перспектывамі Цэнтр Астрагорскага пераадольвае гэты стэрэатып. Цэнтр з'яўляецца першай „фабрыкай думкі”, заснаванай беларусамі, якія атрымалі адукацыю на Захадзе і жывуць у Беларусі і Еўрапейскім Саюзе. Аналітыкі, якія працуюць у Мінску, Кіеве, Лондане і Берліне, разумеюць выклікі трансфармацыі ў рэгіёне, бо самі прайшлі праз іх. Атрымаўшы адукацыю ў вядучых універсітэтах свету, эксперты цэнтра выпрацавалі культуру і тэхнічныя здольнасці, неабходныя для аналітыкі ў заходняй стылістыцы”, — упэўнена сцвярджаецца на сайце.

Каб бліжэй пазнаёміцца з супрацоўнікамі „Цэнтра Астрагорскага”, варта зазірнуць у рубрыку „Людзі”. Некаторыя з іх таксама з'яўляюцца выкладчыкамі „Акадэміі Астрагорскага”, але большасць, па ўсім відаць, займаецца больш навуковай, чым выкладчыцкай дзейнасцю.

Паколькі стваральнікі і Акадэміі, і Цэнтра лічаць за гонар праслаўляць імя Астрагорскага, які, па шчырасці кажучы, не надта вядомы большасці беларусаў, то варта адмыслова засяродзіць увагу на гэтай гістарычнай постаці. Больш даведацца пра Майсея Астрагорскага дасць магчымасць аднайменная рубрыка, на якую можна выйсці чамусьці толькі праз старонку „Пра нас”. Згодна дадзенай там інфармацыі, Астрагорскі (1854-1921) — беларускі палітык, даследчык гісторыі права, гісторык і палітолаг, які ўнёс вялікі ўклад у вывучэнне палітычных і прававых сістэм пры трансфармацыі аўтакратычных рэжымаў. „Яго высновы датычна прадстаўнічай дэмакратыі, у прыватнасці ролі палітычных партый, сталі асабліва актуальнымі ў постсавецкім кантэксце, дзе грамадствы намагаюцца перайсці ад аўтарытарызму да дэмакратыі ва ўмовах адсутнасці добра развітой палітычнай культуры”, — гаворыцца на сайце.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

### Прысвяціў жыццё аўтакефаліі



# 130 гадоў з дня нараджэння Хведара Данілюка

Беларускі рэлігійны і грамадскі дзеяч, праваслаўны святар Хведар (Тодар) Данілюк нарадзіўся 12 жніўня 1887 г. у вёсцы Сурынка Слонімскага павета. Паходзіў з праваслаўнай сялянскай сям'і Васіля і Агрыпіны Данілюкоў. Пачатковую адукацыю атрымаў у роднай школе, пасля чаго вучыўся ў духоўнай школе пры Жыровіцкім манастыры. Працаваў настаўнікам на Слонімшчыне, пазней псаломшчыкам у Кобрынскім павеце. З 1914 года служыў у расійскай арміі, у 1917 г. скончыў у Гатчыне школу прапаршчыкаў. У жніўні 1917 г. браў удзел у з'ездзе беларускіх вайскоўцаў у Маскве, з кастрычніка таго ж года быў на Румынскім фронце камісарам 4-га беларускага корпуса. Пасля дэмабілізацыі некаторы час быў у расійскім Таганрогу.

У верасні 1918 г. вярнуўся ў Беларусь. У снежні таго ж года абраны старшынёй беларускай валаснай рады ў Ваўкавыску. У 1919-1920 гг. служыў у войску Літоўскай Рэспублікі, Беларускай вайсковай камісіі. У студзені 1919 г. стаў малодшым афіцэрам 1-га Беларускага Гарадзенскага палка. Урадам Беларускай Народнай Рэспублікі накіраваны ў Літву ў распараджэнне Міністэрства беларускіх спраў пры Літоўскім урадзе.

Браў удзел у Слуцкім паўстанні 1920 г. У канцы лістапада 1920 г. разам з Андрэем Якубецкім і Уладзімірам Падгурскім накіраваны на дапамогу ўдзельнікам антыбальшавіцкага чыну. Едучы фурманкамі, афіцэры Беларускай вайсковай камісіі не паспелі даехаць у Слуцк, калі там арганізавалася Слуцкая брыгада, а прыехалі ў Семежава, куды ў той час яна адышла. Данілюк быў прызначаны начальнікам вучэбнай каманды, асобнай адзінкі ад Слуцкага і Грозаўскага палкоў брыгады. Па словах сына Хведара Данілюка, Барыса, „цэлая брыгада ці паасобныя палкі цалкам у баях удзелу не бралі, а толькі іхныя патрулі ці аддзелы мелі сутычкі з бальшавікамі, у якіх былі забіты з боку случчакоў, што былі пахаваны каля Семежаўскае царквы”. Частка афіцэраў і жаўнераў, у тым ліку Данілюк, была накіравана ў Першы беларускі батальён польскага войска ў Лодзі.

Пасля заканчэння савецка-польскай вайны жыў у вёсцы Вярэйкі Ваўкавыскага павета, служыў псаломшчыкам у мясцовай царкве. 21 верасня 1921 года прыняў святарскае пасвячэнне. У 1922-1939 гг. служыў у розных праваслаўных прыходах Слонімскага і Навагрудскага паветаў. У 1930-х гг. пераследаваўся польскай адміністрацыяй, у 1935 г. яго пазбавілі прыхода. Служыў памочнікам настаяцеля ў Крывошыне і Заблудаве.

У час Другой сусветнай вайны ў 1942 г. браў удзел у саборы Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы як прадстаўнік Навагрудскай епархіі. З лета 1944 г. — у эміграцыі, пэўны час жыў у Нямеччыне, выконваў абавязкі ад'ютанта камандзіра 30-й (беларускай) дывізіі. Хведар Данілюк быў адным з ініцыятараў адраджэння БАПЦ, браў удзел у праваслаўным саборы аўтакефалістаў у нямецкім Канстанцы. У жніўні 1950 г. пераехаў у ЗША, быў настаяцелем прыхода БАПЦ у Брукліне, а пазней настаяцелем кафедральнага сабора св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. На ўстаноўчым з'ездзе епархіі БАПЦ у ЗША і Канадзе ў траўні 1960 г. абраны ў епархіяльную ўправу, прызначаны кіраўніком царкоўна-судовага аддзела. Хведар Данілюк — бацька Барыса Данілюка, які таксама быў актыўным змагаром за беларускую праваслаўную царкву.

Памёр Хведар Данілюк 29 ліпеня 1960 года ў Нью-Ёрку. Пахаваны на беларускіх могілках у Нью-Брансвіку.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Тады людзі будаваліся



У фірме «Анатоль» (фота з архіва Сцяпана Кубаеўскага)

Колішняе жыццё жыхароў Орлі засяроджвалася галоўным чынам на гандлі, рамястве, земляробстве ды на дробнай прамысловасці, саматужніцтве і рукадзеллі. Патрэбы, вонкавыя павевы ды тэхналагічны і цывілізацыйны прагрэс наводзілі развіццё канкрэтных рамёстваў, якія з ходам часу аджываліся. Стагоддзі і дзесяцігоддзі ўносілі свае змены. З даўніх прафесій амаль ніводная не засталася. Вось на тэрыторыі Арлянскай гміны працуе мадэрнейшы завод, аднак яго тэхнічныя навінкі не для мясцовых людзей.

Яшчэ ў 1970-1980-х гадах у майстэрнях мясцовага ГСу хапала працы кавалю, сталяру, зваршчыку ці токару. Па вёсках людзі будаваліся і патрабавалі ўсялякіх будаўнічых матэрыялаў. Пайшла мода на сталёвыя агароджы, балюстрады, кожны запасаўся дыскавай пілой, да якой вал тачыў токар. Ужо з раніцы перад брамай майстэрні станавіліся чэргі кліентаў, фурманак і трактароў з драўнінай. Тэхнічны прагрэс, забеспячэнне крамаў і дэмаграфічныя працэсы прывялі да таго, што спецыялісты сталі непатрэбнымі; няма таксама ўжо ГСу.

Расказвае **Сцяпан КУБАЕЎСКІ**, 1948 года нараджэння, які звыш дваццаці гадоў працаваў токарам:

Пасля пачатковай школы, у 1962 годзе пачаў навуку ў трохгадовым асноўным прафтэхвучылішчы ў Алецку на спецыяльнасць токара; раней вучыўся там мой сваяк Валодзя Стэльмашук. Пасля школы прайшоў трохмесячную стажыроўку і стаў на першую працу ў гуце „Зыгмунт" у Бытаме. Працу прапанавала школа, але канкрэтны завод выбралі мы самі, з калегамі, там, на месцы. Купілі газету, а ў ёй было шмат прапаноў працы; у той час найбольш працы прапанавалася на Шлёнску. І найлепш там плацілі. Разам паехаў калега з Орлі Шурык Фіёнік, слесар, які ў гуце падвучыўся на зваршчыка.

Гута ў Бытаме вырабляла велізарныя прэсы з націскам у 300 тон. Пасля стажыроўкі працаваў у вытворчасці, на сярэдняй апрацоўцы. Дэталі для апрацоўкі былі вялікія і падавалі мне іх маставым кранам, а я мацаваў іх у клямрах вялікай такарні „Парэмба"; у нас такіх вялікіх такарняў няма. Што давалі, тое і рабіў, паводле чарцяжоў з дэталёвым апісаннем.

Жылі мы ў рабочым інтэрнаце, працавала мноства людзей з усёй краіны. Працаваў там адзін год, да прызыву ў войска. Раней вярнуўся ў Орлю, на два месяцы ў бетанярню, каб атрымаць „адправу". У войска трапіў у Аструду, у аўтамабільную часць. Спярша быў паўгода ў падафіцэрскай школцы, а пасля прайшоў курсы вадзіцеля і механіка. Цягам паўгода так ганялі, што ледзь ногі на локах ускідваў.

Пасля войска вярнуўся ў бетанярню. Нейкі час працаваў у гайнаўскім „Геймаклесе", але не пасавалі даезды чыгункай. Пасля ў мясцовым СКРы — тачыў чыгунныя падбойнікі для малатарняў. А пасля пайшоў у геэсаўскую майстэрню; патрабавалі там токара. Рабілі многа для людзей. Тачыў завесы для брамаў, але найбольш то валікаў для дыскавых піл — можа больш за сто. Тады ў крамах не было такіх часцей. На вёсцы токару была заўсёды нейкая праца, увесь час хадзілі за мною „дзядзькі" (кліенты). У гандлі не было запчастак, дарабляў дэталі для трактароў. Было шабашніцтва, быў заробак.

Калі ГС падупаў, паліквідавалі паслуговыя майстэрні з-за нерэнтабельнасці. Недзе ў 1990-х коратка працаваў у фірме „Анатоль" у Бельску-Падляшскім (на здымку). Тады было беспрацоўе і прымалі на кароткатэрміновую працу. Працаваў яшчэ на будовах у „Польбудзе" — стаўлялі амбулаторыю на Ягелонскай, школу на Відаўскай... Пасля пайшоў на рэнту па нездароўю, а ў 2013 годзе выйшаў на пенсію.

У Орлі пры „камуне" токарамі былі таксама Вася Багацэвіч, Валодзя Стэльмашук, Стась Хаміцкі і Валодзя Ляўчук.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

## Карціны маляваныя ніткамі



4 жніўня гэтага года ў Мастацкай галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы Гайнаўскага павета адкрылі багатую выстаўку прыгожых карцін, вышытых рознакаляровымі ніткамі. Экспазіцыя складаецца з прац трох вышывальшчыц Дануты Каліноўскай з Новага Масева, Альжбеты Матысюк з Семяноўкі і Тамары Скепка з Забрадоў — усе яны з Нараўчанскай гміны **(на здымку)**. Выстаўку можна будзе агледзець на працягу месяца. Галерэя запрашае ў гадзінах яе працы.

Арганізатарамі цікавай выстаўкі былі старшыня Камісіі па сацыяльных і грамадскіх справах Нараўчанскай Гміннай рады, Гміннае ўпраўленне і Гміны асяродак культуры ў Нараўцы. Варта дадаць, што на адкрыццё выстаўкі прыйшлі і прыехалі жыхары Нараўкі, Забрадоў, Новага Ляўкова, Лешукоў, Міклашэва, Новага Масева, Плянты і Семяноўкі. Адкрылі яе Мікалай Павільч, войт Нараўчанскай гміны і Лявон Хлябіч, гмінны радны з Нараўкі.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# 13.08 — 19.08

**(22.03. — 20.04.)** Чакае цябе поспех у прафесіі. Дбай, каб гэта не папсавала тваіх адносін з блізкімі. Мусіш гэту справу разважыць. Дасі сабе рады ў кожнай сітуацыі, скарыстае на тым твая пазіцыя, якую падымае ўверх Юпітар. Асцярожна едзь і глядзі, куды ставіш ногі. Будзеш мець шанцы паказаць свае здольнасці з 16.08. (да 22.08.). 15-19.08. не пераборшч з выдаткамі.

**(21.04. — 21.05.)** 13-17.08., праводзячы рамантычны вечар, можаш апынуцца ў надта гарачай сітуацыі; раман міне, але ўспаміны застануцца. 13-14.08. выберыся з кімсьці знаёмым у падарожжа. Не перацані сваіх магчымасцей, калі зменіш ляжак на конскую спіну ці палкі; не бравурнічай і не рызыкуй. 15-19.08. можаш стаць ахвярай сваіх слабасцей.

**(22.05. — 22.06.)** Захочацца адмены, але не палі за сабою мастоў. Для тых, каго кахаеш, зробіш усё. Штодзённасць можа цябе занудзіць. Шукаючы змен, не пепраборшч, бо Сатурн ахвотна цябе правучыць. Твае задумы і планы акажуцца карыснымі, прыбытковымі. Блізняты, шукаючыя пару, апынуцца ў катастрофе 15-19.08.; замест аказаць ураажанне, можаш зрабіць з сябе... ідыёта. На працы і пры грашах будзь разважлівы і пільны.

**(23.06. — 23.07.)** Абяцанне прыемных канікул і адпачынку. Удалыя падарожжы. Можна таксама пабагацець, трэба толькі адважыцца. 13-17.08. будзь вельмі асцярожны ў пачуццях, асабліва калі ты з другой дэкады знака; можаш не адчапіцца ад залётніка. Добры час на сустрэчы, хаця цяжка можа будзе скантактавацца. 13-15.08. будзь вельмі асцярожны на працы, бо можаш зрабіць памылку, якой толькі чакае канкурэнцыя! 15-19.08 дробныя страты і шкоды, на шчасце ўсё можна будзе паправіць.

**(24.07. — 23.08.)** Энергія, самаўпэўненасць, дзелавітасць. Усё, што задумаеш, пойдзе спраўна. Можа крыху будзеш непрыемны для іншых, дык не здзіўляйся, што іншыя адкажуць табе тым самым. 12-15.08. будзеш мець добры нос да карысных інвестыцый, выкінеш непатрэбшчыну з хаты і душы. На рабоце трэба будзе прысесці фалды, але будзеш мець большую свабоду ў рашэннях. Не забывай пра бутэльку з вадой.

**(24.08. — 23.09.)** 13-14.08. з фантазіяй адарвешся ад рэчаіснасці. Але 15-19.09. могуць табе вырвацца з-пад кантролю пачуццёвыя справы. Многа задум, але Марс будзе тармазіць іх рэалізацыю. Схочацца парабіць удалыя парадкі ў розных планах. 13-17.08. пільнуйся ад скандалу, які можа ўскалыхнуць тваё пачуццёвае жыццё.

**(24.09. — 23.10.)** 13-14.08. спраўна палагодзіш памылку, якая магла б цябе многа каштаваць. 15-19.08. — час спрыяе распусце (у фінансах); не абяцай грушак на вярбе. У пачуццях магчымая прахалода. На працы трымай язык за зубамі, будзь ветлівы — гэта найлепшае ружжо. Магчымыя інтрыгі супраць цябе — яны 13-14.08. могуць стаць яўнымі, магчымыя для цябе страты. Фінансам табе ад месяцаў спрыяе Марс, але часам не адчуваеш кан'юнктуры; не слухай кепскіх дарадцаў.

**(24.10. — 22.11.)** Нервы і фрустрацыя; адлучыся ад кампаніі сяброў ці сваякоў. Варта з'ездзіць на канікулы, нават за мяжу. 13-14.08. можаш сустрэць на сваёй дарозе сваю палавінку яблычка, прытым нечарвівую! Хаця 13-15.08. можаш з кімсьці расстацца. Твае меншыя ці большыя грахі могуць выявіцца 13-17.08.! З 16.08. (да 22.08.) — час спрыяе рэалізацыі самых смелых задум.

**(23.11. — 22.12.)** 13-15.08. не падвядзе цябе моцная воля. Але 15-19.08. зоркі могуць пазбавіць цябе памяркоўнасці, а праз гэта і грошай. На працы прыдалося б табе больш паслядоўнасці, будуць новыя задумы, але захутка гаснеш да іх рэалізацыі. 13-15. пільнуйся ад прыкрых неспадзяванак (на напарыся на корань, галіну, не правалíся ў дзірку ў мосце).

**(23.12. — 20.01.)** 13-14.08. не праваронь шанцаў на новае знаёмства. 13-19.08. не паддавайся! 15-19.08. лепшае можа аказацца ворагам добрага. Дбай аб камфорт свайго жыцця і здароўе. 13-17.08. здрада вісіць у паветры; пільнуйся, бо паслядоўнасці будуць вельмі благія! На працы не пачынай новага, займайся штодзённымі абавязкамі і пільнуй тэрмінаў.

**(21.01. — 19.02.)** Прыкмеціш і выкарыстаеш усе шанцы. 13-15.08. аформіш усё, што для іншых проста немагчымае. Але глядзі: 15-19.08. не інвестуй грошай, бо яны не вернуцца! Не шкадуй часу на гулянкі і адпачынак.

**(20.02. — 21.03.)** Большасць спраў пойдзе па-твойму, але будзь спакойны і за ўсім сачы. Не праваронь важнага. 13-17.08. вялікая тэмпература ў пачуццях; калі няма ў цябе кагосьці блізкага, мусіш цяпер хутка яго знайсці! Можаш знайсці таксама новае жыллё, купіць участак, пачаць рамонт. Нічога, што твая форма яшчэ даволі нізкая; не рабі нічога праз сілу.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. становішча ў спартыўных гульнях, калі мяч выходзіць за межы спартыўнай пляцоўкі = 10 _ 11 _ 9 _;
2. установа, якая праводзіць грашовыя аперацыі = 18 _ 19 _ 13 _ 1 _;
3. канечнасць з каленам = 4 _ 5 _ 20 _ 21 _;
4. французскі Іван = 12 _ 23 _ 16 _;
5. савецкі матацыкл з Іжэўска = 17 _ 3 _;
6. старазапаветны пакутнік = 14 _ 2 _ 15 _;
7. лодка з ветразем = 6 _ 7 _ 22 _ 8 _.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 30 нумара**

Арэх, натоўп, кроў, пі, Іоў, пароль, Пац, Ельня, Ечка, гнеў, зрэнка, імідж, „Гапон", Вена, букініст, кіпень, Факта.

Рашэнне: **Хто ў ліпені ў полі пацее, таго ўзімку і печка пагрэе**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

**Закон Мерфі сцвярджае, што калі скібка хлеба, памазаная маслам, упадзе на дыван, то найчасцей менавіта маслам уніз. А ў больш агульным сфармуляванні — калі існуе нейкая верагоднасць нейкага непажаданага здарэння, то яно менавіта здарыцца. Гэты закон часта праяўляецца ў будзённым жыцці.**

Вось падаўся я ў Лапы зведаць тамашнія праваслаўна-пратэстанцкія могілкі. Дзень быў сонечны, нішто не прадвяшчала нейкага непрыемнага надвор'я. Яшчэ калі поезд быў на станцыі Лапы, тое сонейка свяціла. Але калі рушыў далей, каля таго сонейка паказалася шэраватая хмарка. Калі я вылез з поезда на станцыі Лапы-Осэ, сталі падаць адзінокія кропліны дажджу. А калі зайшоў у даўнюю некраполію, пасыпаўся вельмі інтэнсіўны душ. Вядома, парасона ніякага ў мяне не было, а адзіным сховішчам ад дажджу падаваліся мажныя ліпы. Прыгорбіўся я пад адной, лёгка пахіленай, спадзяючыся ўхіліцца ад ліўню. Але вялікі шмат дажджавой вадзічкі з аплкунчых ліпавых лісткоў паліўся на ствол і адтуль стаў струёй ліцца мне на спіну; неўзабаве летні ручаёк ліўся па ўсіх валокнах маёй вопраткі...

Хмарка мінавала, засвяціла яснае цёплае сонейка і высушыла мяне пакуль я зайшоў на адлеглую за тры кіламетры станцыю Лапы. І зноў поездам у Беласток. А тут зноў дождзык, але на пероне чыгуначнага вакзала ёсць паветкі...

Праляцеў тыдзень, выбраўся я ў напрамку Пушчы, Белавежскай пушчы. Байкам. Па тых ваколбеластоцкіх дарожных лабірынтах, дзе не надта многа сучаснага транспарту. Цераз Станіслававова, Галіцкае, Лубнікі. У Галіцкіх пытаю жанчыну пра дарогу ў Лубнікі — не ведае, пытаю хлапчукоў — не ведаюць. Заглядаю ў мабільнікавую карту і неяк на падсыпаную гравіем грунтоўку ў Лубнікі трапляю. Далей Звяркі, Рахвалаўка ды ўсе далейшыя Фальваркі. Апошні адрэзак просты-прасцюсенькі. І на канцы яго, у канцы вёскі Фальваркі-Тыльвіцкія, інакш Подваркі — расхадныя дарогі. Дарожных паказальнікаў там няма, а мне думаецца ехаць у напрамку Каўпакоў. Зноў заглядаю ў мабільнікавую карту, а яна мне натурыцца. Ну то, так сабе мне падумалася, трэба падацца ў найбольш наезджаную дарогу — напэўна завядзе яна ў нейкую чарговую вёску. Як падумаў, так і зрабіў. Зараз завяла яна мяне ў лес, там таксама расхадныя і зноў на найбольш езджаную. Вывела яна мне да нейкага хутара і далей тая дарога счэзла, але не счэзла геадэзічная дарожная паласа, якая стала ўжо часткаю пашы, на якой пасвіліся кароўкі. А калі ёсць дарожная паласа, то яна ж, тая вызначаная каліс геадэзістамі дарога некуды завядзе. Завяла, неўзабаве, да чарговай дарожнай паласы, якою калі хто карыстаецца, то можа раз у год. І абочына гэтай чарговай дарожнай паласы завалена валунамі. Валакуся я са сваім байкам па гэтым дарожным бездарожжы. Даходжу да шчыльна абгароджанага аб'екта, які аказваецца нейкім кантрольным пастарункам на Ямальскім газаправодзе. Ад яго ўжо памяркоўна наезджаная жвіроўка, па якой можна калясіць байкам. Перада мною нейкая мясцовасць, з дарожным паказальнікам — Патока...

Цяпер толькі прыгадваю, што я каліс тым дарожным бездарожжам ужо ішоў — некалькі гадоў таму. Толькі трапіў туды ад заблудаўска-міхалоўскай шашы, недзе з боку Пяценкі. І памяць пра яе зарасла ў мяне крапівою, а цяпер вось зноў акрыяла. І нават паявілася ў мяне радасць, што ў Подварках падвяла мяне мабільнікавая картаграфія, бо ж Патокі не было ў маіх вандроўных планах, а яна такім нечаканым чынам прыпомнілася.

Вярнуся яшчэ да раздарожжа за Подваркамі. Выбраў я найбольш езджаную дарогу, спадзяючыся, што па ёй ездзіць больш людзей, што яна да нейкай вёскі, а не да адзінокага хутара. Але ж цяпер адзін гаспадар можа мець больш транспарту чым нейкая цэлая значна апусцелая наша вёска...

У пачатку Патокі заўважыў я адну змену — аднаўлены каталіцкі вывадны крыж, значыць агароджа вакол яго; цяпер яна металічная. А насупраць яго праваслаўны каменны крыж. Ён у даўні час таксама быў вывадным, тады, калі з патоцкай царквы выводзілі пакойнікаў на могілкі, што каля Пяценкі. Акурат тою дарогай, што цяпер зарасла травяністай раслiннасцю, а да таго ж народ назвалкаў на яе валуны. Каліс ледавік прынёс тыя валуны на сённяшнія навакольныя палі, а сяляне, калі ў іх распараджэнні знайшлася магутнейшая тэхніка, павывалакалі тыя валуны на непатрэбную ім дарогу. Бо цяпер на могілкі пакойнікаў водзяць з Тапалян зусім іншай дарогай. А даўняя стала адно памяткай пра царкоўнае мінулае Патокі. І аддарожыць тую запушчаную паласу няма вялікага сэнсу, бо каму ж і для чаго яна патрэбная? Ну, адрэзак яе спатрэбіўся для газаправода, можа чарговы адрэзак нейкім чынам таксама апраўдае сваё дарожнае прызначэнне...




# Як зубру зуброўка





Пакуль што перспектыў на гэта не відаць. Вулічны насціл у Патоцы штораз больш поўніцца зеленню, якая напорыста прабіваецца з бруку. Гэтак выглядае заходняя частка вёскі, у якой абжытыя лічаныя хаты. Крыху лепш выглядае цэнтр вёскі, каля дарогі, што адыходзіць у бок Тапалян. Насупраць цэрквіска развальваецца былое пажарнае дэпо, гэта такі помнік сучаснай мінуўшчыны, дзе ўсярэдзіне астаўся толькі нейкі вялікі фатэль, свайго роду нацюрморт на фоне прорвы ў сцяне.

Ад Патокі да Гознай новы, гладкі як стол асфальт. За Гознай жвіроўка. Далей Агароднікі, Іванкі, Ванева. За Ваневам рашаю падацца не ў Адрынкі, але ў Калясное. Яшчэ прадаўжэннем жвіроўкі з Адрынок падаюся ў лес глянуць на адрынoцкія могілкі; каліс туды хадзіў, але цяпер забыў шлях і, крыху пакруціўшыся па лесе, вяртаюся з нічым на асфальтоўку з Нарвы ў бок Плянтаў, Новай Волі і Міхалова. Цяпер углядаюся за дарогай у напрамку Калянснога. Нейкая дарожка ў лес, з'язджаю. Неўзабаве выязджаю на сенажаці, на якіх паказваецца адрына, што паміж Калясным і Адрынкамі. І будынкі Калянснога, каля двухсот метраў далей. Прабіраюся ляснымі дарожкамі ў бок гэтай невялікай вёсачкі.

Не ведаю, ад чаго ў мяне з'яўляецца захапленне тамашнім ландшафтам. Здаецца — звычайны лес і звычайныя лясныя дарожкі. Толькі тут менавіта канчаецца пойма ракі Нарвы, а далей памяркоўнае ўзвышша. І вось у гэтых лясных дарожках, як у папулярнай песні — цячэ вада ў ярок — калі пасыпле дождж. І тут, здаецца, багацейшая ландшафтная палітра. Праўда, не бываў я ў Альпах, не бываў на Гаваях — не бачыў таго, чым захапляецца вялікі свет, і мне здаецца, што менавіта тут, каля Калянснога, найпрыгажэйшае месца на зямлі. Насычаны водар прыроды і прыродная цішыня поўняць душу нейкай райскай радасцю. Можа так выглядаў мясцовы Эдэм?.. Магчыма, што так праяўляецца настальгія па колішніх, бачаных у райскі час дзяцінства краявідах, дзе пераплятаюцца насычаныя рознымі адценкамі сакавітай зелені палетак жыта, палетак бульбы, скошаная сенажаць, сцяна лесу — усё прыроднае багацце...

І самое невялічкае Калясное нагадвае колішнюю вёску з грамадкай дзетвары на вуліцы, з брахлівымі сабачкамі, з аўрай традыцыйнага гаспадарання. У суседніх Супрунах зусім іншы краявід. Каля першай хаты, у разгары яе грунтоўнага рамонту, легкавушка з варшаўскай рэгістрацыяй; і ціхая надзея, што тыя „варшавякі" мясцовага вываду. Апошнія лічаныя хаты ў Супрунах падаюць замiральны выгляд. Лешак Нос у манаграфіі Міхалоўскай гміны падаваў, што ў 1857 годзе ў Супрунах пражывалі 22 мужчыны і 14 жанчын, а ў 1921 годзе 24 мужчын і 18 жанчын. У 1950 годзе 31 мужчына і 21 жанчына, а ў 1995 годзе 12 мужчын і 13 жанчын. І, мабыць, былі гэта ўжо пажылыя людзі, якія зараз адышлі на новавольскія могілкі. З прыведзеных статыстык вынікае, што ў Супрунах жыло значна больш мужчын, чым жанчын — з'ява даволі нетыповая. І сама назва вёскі здаецца выводзіцца ад мужчынскага імя Сафроній, якое ў ходзе вандроўкі ад яго блізкаўсходніх крыніц прыняло гучанне Супрун...

Апошняя крама па маёй дарозе была ў Подварках і ў той час не спадзяваўся я, што расходую ўсю забраную з сабою ваду. Але ж неяк так са мною сталася, як з паравозам, калі арганізм стамляецца недастаткам нейкіх кампанентаў, у тым і звычайнай, здавалася б, вады. Мая надзея засяродзілася на Сушчы, дзе „заўсёды" была крама. І заўсёды была яна ў прыватнай хаце, дзе прадаўцом быў найчасцей гаспадар тае хаты, што на практыцы абазначала кругласутачны доступ да найбольш пажаданых тавараў. У даўнейшую даўніну так было паўсюдна, але ж настаў той час непазбежнага прагрэсу, калі сталі ўзводзіць для крамаў асобныя будынкі. У эпоху Канстанціна Майсені з'явіліся такія крамы, з пазначанымі гадзінамі працы, дзе прадавец пасля тых гадзін закрываў краму і падаваўся ў сваю ўласную хату займацца сваімі справамі. Не ўва ўсе вёскі дайшоў той прагрэс і былі такія мясцовасці, дзе крамы надалей дзейнічалі паводле старых парадкаў, дзе прадавец быў „пад рукою" кругласутачна. Так было ў Сушчы.

А ў нашага ж народа ўсходняя душа, якой не даспадобы ўсялякія заходнія нарматыўныя выдумкі, не толькі цяперашнія брусельскага радаводу, але і ўсе даўнейшыя, „нямецкія". Бо тут найдаўжэй захавалася першабытнае гаспадаранне, дзе чалавек незалежны ад гандлёвага абмену, ад гадзін, дагавораў, дзе ўсё патрэбнае пад рукою. Вучоныя сацыёлагі заўважылі, што ўсходні чалавек найбольш набліжаны да жывёльнага свету, да глыбіннай прыроды, не выраджаны з першабытнай натуры. Захацелася напіцца нейкага кампанейскага напою, то ён павінен быць тут як тут, як зубру зуброўка, а не толькі ад восьмай да чацвёртай. Віно або піва. І ў познюю пару валакліся паломніцтвы мясцовых сасмаглых маладых людзей мужчынскага полу ці то на веласіпедах, ці то ў санях, у тыя мясціны, дзе ў любы час можна было атрымаць такое „прычашчэнне", ад якога да шчырасці раскрываліся душы, не заўсёды для кляння. Такою мясцовасцю з „санктуарыем" для ўсходняй мясцовай душы была Сушча. І цяпер у Сушчы невялічкая крамка ў сенцах традыцыйнай хаты, дзе няма заліўнога мадэрнага асвятлення, затое захавалася традыцыйная атмасфера колішняй лаўкі, дзе не прадавец чакае пакупніка, але пакупнік мусіць крышку пашукаць прадаўца па закутках ягонага панадворка.

Трапляе чалавек у такую, запаведную сёння, мясцовасць, з настальгічнай крамай, а там не скібка з маслам на дыване, але тое, што чалавеку найбольш патрэбнае.

❖Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 33